ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 42 (98) 23 – 29 сьнежня 1994 г. Кошт 50 рублёў

# КІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ!

## СЛОВА ПАСТАРСКАЕ КСЯНДЗА БІСКУПА АЛЯКСАНДРА КАШКЕВІЧА І ПАЖАДАНЬНЕ І НА БОЖАЕ НАРАДЖЭНЬНЕ І НА НАДЫХОДЗЯЧЫ НОВЫ ГОД

*Укаханыя ў Хрысьце Браты і Сёстры!*

*Сярэдзіна найдоўжшай ночы ў годзе. І вось у палове гэтай ночы чуем голас з неба: "Не бойцеся! Гэта абвяшчаецца вам вялікая радасьць, якая будзе ўдзелам цэлага народу і сёньня ў горадзе Давіда нарадзіўся вам збавіцель. А гэта будзе дзеля вас знакам і адшукайце Немаўля, агорнутае ў пялёнкі, якое ляжыць у ясьлях"(Лк. 2.10.12).*

*Гэтае ноччу мы, падобныя да пастараў, якія ўсё кінулі і прыйшлі ў Віфлеем, каб спаткаць Сьветласьць, народжаную са Сьветласьцю. Пастыры ўбачылі і паверылі (узьверылі). А мы, ці разумеем і ці верым, што гэта, што Ноччу дзеецца, ёсьць доступ толькі праз Веру?*

*Гэтае навароджанае дзіця - ёсьць Бог. Прыходзіць на сьвет дзеля нашага збаўленьня. Тая вялікая Таямніца прыходзіць сёньня да нас ў Знаку Немаўляці.*

*Відавочна, не ад сёньня, але ўжо ад двух тысях гадоў у Сьвятой Царкве Хрыстос-Збавіцель прыходзіць і стае перад кожным чалавекам, перад кожным пакаленьнем, перад кожным народам. Дае Сябе, а ў Сябе дае моц (сілу), неабходную дзеля відавочнага разьвіцьця сьвету.*

*А аднак, самога зьяўленьня Хрыста не дастаткова. Тым, якія яго прынялі, даў сілу... (П.І.1,12). Прыходзячага Хрыста трэба прыняць праз веру. Як жа цяжка паверыць, што менавіта ў гэтых ясьлях распачалося Збаўленьне сьвета. Як жа цяжка гэтае пакінутае ў хляве Дзіця прызнаць за Бога Збавіцеля.*

*Але, калі мы, а разам з намі сьвет, не павінен загінуць - неабходна абраць веру. І мы часта кажам, што верым. Калі ўжо верым, шаноўны Брат і шаноўная Сястра, што Хрыстос нарадзіўся ў ясьлях, то бяда табе, калі не нарадзіўся ў Табе! Хрыстос хоча нарадзіцца ў тваім сэрцы - калі верыш, зрабі Яму месца і прымі Яго.*

*У час Сьвятое Імшы прыступім да сьвятой Камуніі, а тады сьвятар скажа нам: "Цела Хрыста". Кожны з нас адкажа: "Амінь" - слова веры, якое выказвае прызнаньне, любоў, удзячнасьць. Слова, якое злучае нас са сьвятарамі ў абліччы здарэньня Вефлеемскай Ночы - "Слова стала Целам", Целам і Кроўю Новага Памеру Бога з чалавекам.*

*У сьвятой Камуніі дарастаем да зразуменьня, што Бог - гэта Любоў. У Камуніі з Хрыстосам вучымся пазбаўляцца ад мноства слабасьцяў і недарэчнасьцяў, ад нашага эгаізму, ад непажаданых размоў аб бліжніх, ад усяго, што чалавека сапраўды памяньшае перад Богам і ў вачах блізкіх. У тым сакрамэньце Любові падтрымліваем радасьць з нагоды сувязі з Хрыстом.*

*На гэтае Радаснае Сьвята Божага Нараджэньня, а таксама на надыходзячы Новы 1995 Год жадаю Вам, Шаноўныя Браты і Сёстры, скласьці найлепшыя пажаданьні: няхай Божае Дзіця даруе Вам усялякіх Ласкаў, няхай узмацняе ў Вас веру і хай распаляе Вашу любоў да Бога і блізкіх, каб памяталі, што закліканыя да вялікае Любові і каб гэтую Любоў аддавалі іншым, як адзіная вялікая сям'я дзяцей Божых.*

*На жыцьцё ў радасьці гэтых Вялікіх Таямніц ад шчырага сэрца Вас Усіх благаслаўляе*

**Біскуп Аляксандр КАШКЕВІЧ,**
**Ардынарый Гарадзенскі.**
**Горадня. Божае Нараджэньне. 1994 год.**







## СТАРШЫНЯ ЁСЬЦЬ - КАМПРАМАТУ НЯМА

Напрыканцы мінулага тыдня Горадню наведаў прэзідэнт Беларусі А.Р.Лукашэнка. Аляксандр Рыгоравіч прызначыў новага старшыню аблвыканкама.

Абраньнікам прэзідэнта стаў А.І.Дубко. Яшчэ спадар прэзідэнт заўважыў, што пэўныя службы праверылі даклад дэпутата С.Антончыка і не знайшлі кампрамату.

**Г.ГАРАДЗЕНЕЦ.**

**НА ЗДЫМКАХ: падчас наведваньня А.Р.Лукашэнкам Горадні; А.І.Дубко.**



## МЕМАРАНДУМ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ

Мы, Першы Зьезд Беларускіх Нацыяналістаў, абвяшчаем пра стварэньне ў Беларусі крайняй правай палітычнай сілы, якая разгортвае сваю дзейнасьць пад сьцягам беларускай нацыянальнай ідэі.

**Мы ўсьведамляем, што:**

- незалежнасьць Беларусі як дзяржавы не зьяўляецца сёньня фактычнай;
- інстытуты існуючай дзяржулады не зьяўляюцца беларускімі, паколькі ў іх перабажае падрыўны антыканстытуцыйны элемент;
- акупацыйная савецкая ўлада мяняе свае формы, але не сутнасьць;
- грамадзянін, які цяпер выконвае абавязкі прэзідэнта Беларусі, не зьяўляецца патрыётам Бацькаўшчыны, пагарджае гісторыяй і мовай беларускай нацыі, заклікае да інкарпарацыі Беларусі ў склад Расейскай Федэрацыі;
- на Беларускай Тэрыторыі з дапамогай замежнай рэзідэнтуры і сіламі арганізатараў палітыкі нацыянальнай здрады паўсталі шматлікія партыі, якія нахабна парушаюць беларускую Канстытуцыю, прынятую 15 сакавіка 1994 года.

Мы памятаем пра ўсё, мы ніколі не даруем нашым ворагам таго этнацыду, які ажыцьцяўляўся над беларускім народам да апошняга часу.

Памятаючы пра гэта, мы дзейнічаем, ужываючы крайнія метады і шчырыя словы.

Незалежная і моцная Беларусь - наша вялікая мэта!

**Прынята ў г.Віцебску 27 лістапада 1994 года.**

## СУПРАЦЬ РАСЕЙСКАГА ПРОТАФАШЫЗМУ Ў БЕЛАРУСІ! ЗАЯВА

Мы, удзельнікі Першага Зьезду Беларускіх Нацыяналістаў, канстатуем наступнае.

Сёньняшняя ўлада на Беларускай Тэрыторыі, а таксама грамадзянін, які займае пасаду першага прэзідэнта Краіны, не выступаюць і не могуць выступаць у прынцыпе гарантамі права Беларускай Нацыі на свабоднае самаразьвіцьцё. Гэта пацьвярджаецца фактам юрыдычнага прызнаньня Міністэрствам юстыцыі такіх антыбеларускіх арганізацыяў, як "Славянский Сабор", "Белая Русь", ЛДП (фактычна - філіял ЛДП Жырыноўскага), ПКБ, НРБ і шэрагу іншых, якія дамагаюцца скасаваньня беларускай дзяржаўнасьці. Больш таго, ні Мінюст, ні КДБ, ні МУС да гэтага часу не зрабілі адпаведных захадаў па спыненьню дзейнасьці антыканстытуцыйных утварэньняў.

Зыходзячы з адзначанага, мы робім лагічную выснову, што пры садзейнічаньні сілавых структураў улады антыбеларускі элемент на тэрыторыі Беларусі спрабуе пасеяць атрутнае зерне расейскага фашызму.

Мы, Першы Зьезд Беларускіх Нацыяналістаў, заяўляем, што варожыя беларусам праявы знойдуць на нашай зямлі самы рашучы адпор. З гэтага моманту наша барацьба за Бацькаўшчыну будзе праходзіць пад лозунгам "За вольную Беларусь без фашызму!"

**Прынята ў г.Віцебску 27 лістапада 1994 года.**

## ПРЭЗІДЭНТ АРЫШТАВАЎ ПАЛКОЎНІКАЎ

Двое вайскоўцаў у званьні палкоўніка былі арыштаваны асабіста А.Лукашэнкам. Арышт зьвязаны са здачай у арэнду вайсковага склада гаруча-змазачных матэрыялаў, які знаходзіцца ў гарадзкім мястэчку Сьвіслач.

Склад ёмістасьцю 20 тысяч тон - адзіны на тэрыторыі Беларусі.

Пасьля таго, як міністрам абароны стаў А.Кастэнка, было заяўлена, што склад будзе здадзены ў арэнду. На гэта прэтэндавалі вытворчыя аб'яднаньні "Інтэрбел", "Ваўкавыскцэментнашыфер" і сумеснае летувіска-беларускае прадпрыемства.

Падчас таргоў за арэнду стартавая цана платы за месяц склала 25 тысяч долараў. На 35 тысячах "Інтэрбел" заявіў, што плаціць больш не можа. Калі цана дайшла да 50 тысяч, аўкцыён быў спынены. Тыя, хто гэта зрабіў, заявілі, што маюць указаньні даць права на арэнду толькі "Інтэрбелу".

Прэзідэнт запатрабаваў тлумачэньняў. Аднак яны не былі зроблены, і А.Лукашэнка як галоўнакамандуючы арыштаваў афіцэраў і накіраваў іх на гаўптвахту.

## АГІТАЦЫІ НЕ БЫЛО

Па запрашэньню Гомельскай рады таварыства беларускай мовы ў абласным цэнтры, а таксама ў Хойніках і Касьцюкоўцы пабывалі лідэр Беларускага Народнага Фронту З.Пазьняк, пісьменьнік В.Быкаў і паэт Р.Барадулін.

У сустрэчы з насельніцтвам спадар Пазьняк дэталёва прааналізаваў дзейнасьць прэзідэнта. Аднак пры ўсёй рэзкасьці выказваньняў Зянон Станіслававіч удакладніў, што гэта не асабістая агітацыя за яго як кандыдата на будучых выбарах.

В.Быкаў і Р.Барадулін сустрэліся са студэнтамі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**СІМ**

## У «АЧЫШЧЭНЬНІ» РАСКОЛ

Лідэр і духоўны заснавальнік на Гарадзеншчыне знакамітага "Ачышчэньня" - выкладчык ГрДУ спадар Барыхін - вырашыў пакінуць сваё дзецішча.

Менавіта гэта ён заявіў у выступе на сустрэчы прэзідэнта А.Р.Лукашэнкі ў Горадні з дэпутатамі абласнога Савета падчас абраньня новага старшыні аблвыканкама.

**Герасім ГАРАДЗЕНЕЦ.**

## СЯГНУЛІ 1/8 ФІНАЛУ

У Аргентыне прайшоў чацьвёрты чэмпіянат сьвету па футзалу. Упершыню на гэтых спаборніцтвах узяла ўдзел зборная Беларусі. Вынік сьціплы: паражэньне ад каманды Венесуэлы (2:8), фаварыта турніра зборнай Балівіі (2:6) і калектыва Коста-Рыкі (3:4) заставіла нашых хлопцаў па-за фіналам.

Аднак быць сярод 16 мацнейшых каманд сьвету таксама пачэсна.

**Г.НЁМАН.**

# БЕЛАРУСЬСЮ СЁНЬНЯ КІРУЮЦЬ

## ДАКЛАД СЯРГЕЯ АНТОНЧЫКА "АБ КАРУПЦЫІ Ў КАМАНЬДЗЕ ПРЭЗІДЭНТА",

Паважаныя дэпутаты!

Дэпутат Лукашэнка на адной з сесій прапанаваў увесьці ў практыку Вярхоўнага Савета рэгулярныя парламенцкія слуханьні аб чыноўніках вышэйшага рангу, абвінавачаных у карупцыі. У сваёй прамове будучы Прэзідэнт сцьвярджаў: "Улада, а тым болей вялікая, як вядома, псуе чалавека. Пагэтаму і патрэбны, на наш погляд, механізм публічнага выкрыцьця не вытрымаўшых спакусаў ўлады высокіх чыноў. Іншага месца для такога механізма няма, акрамя як у парламеньце".

Неабходнасьць рагледжаньня намі праблемы карумпаванасьці вышэйшых чыноўнікаў улады абумоўлена тым, што сёньня практычна скончылася фарміраваньне новай уладнай каманды. Прэзідэнт прызначыў вышэйшых чыноўнікаў на ключавыя пасады. Зараз самы час праэкзаменаваць маладога Прэзідэнта і маладую каманду, выявіць ступень карумпаванасьці стаўленікаў Прэзідэнта Лукашэнкі, бо калі гэтага не зрабіць, то карупцыя зьнішчыць гэтую ўладу і ператворыць жыцьцё людзей Беларусі ў татальны жах.

Наступнай прычынай майго выступленьня ў гэтыя дні зьяўляецца той факт, што скончылася рассьледаваньне, якое праводзіла пад маім кіраўніцтвам група, што складалася з 231 супрацоўніка-патрыёта Беларусі. Гэта сьледчыя, аператыўныя работнікі, пракуроры, эксперты, аналітыкі, падаткавыя інспектары, супрацоўнікі міністэрстваў. Сярод іх - пяць палкоўнікаў контрразьведкі, прапрацаваўшых у розны час шмат год за мяжой.

У рэшце рэшт, простага рабочага цікавіць адказ на простае пытаньне: "Чаму ўсяго праз некалькі месяцаў прэзідэнцтва Лукашэнкі так значна пагоршылася жыцьцё?"

Нам удалося знайсьці просты адказ на пытаньне. Ён - у выніках нашага рассьледаваньня.

Беларусьсю сёньня кіруюць некалькі мафіёзных кланаў:

аграрны, прамысловы, чарнобыльскі, гандлёва-зьнешнеэканамічны.

Ад часу свайго фарміраваньня кланы стварылі і свае камерцыйныя банкі. Выкарыстоўваючы сістэму наменклатуры, мафія вяла і вядзе барацьбу між сабой за ўзьдзеяньне на ўрад, цэнтральны банк, мясцовую ўладу. Прычым посьпех залежыць ад таго, хто пасьпее болей дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў ва ўладныя выканаўчыя структуры.

Калі пры Кебічы маятнік мафіёзнага посьпеху паказваў на прамысловую і зьнешнеэканамічную мафію, то зараз ён хіснуўся ў бок аграрнай і чарнобыльскай групоўкі. Падмуркам існаваньня і крыніцай заможнасьці мафіі стала інфляцыя і крызіс.

Архітэктары злачыннага механізму інфляцыі зараз на самых высокіх дзяржаўных пасадах, і гэта не выпадкова.

У 1993 годзе 60% крэдытнай эмісіі праходзілі праз Белаграпрамбанк. Старшынёй праўленьня банка тады працаваў М.М.Чыгір.

Каласальны рост цэн раскруціўся тады па наступнай схеме. Камісія Вярхоўнага Савета па аграрных пытаньнях (старшыня - Гаркун) "выбівала" крэдыты нібыта на патрэбы сялян. Але ж ведалі, што грошы да простых працоўных не дойдуць! Урад пайшоў насустрач, узамен на захаваньне сваіх пасад. Па загаду ўрада нацыянальны банк друкаваў нічым не забясьпечаныя грашовыя паперкі і накіроўваў іх ў камерцыйны банк да М.М.Чыгіра.

Куды ж ішлі грошы далей?

З дакумента праверкі: "Выяўлены масавыя факты нямэтавага выкарыстаньня крэдытных рэсурсаў. Напрыклад, на адчыненай крэдытнай лініі на правядзеньне вясеньне-палявых работ выкарыстана каля пяцісот мільёнаў рублёў не па мэтаваму прызначэньню. На іх набыта віно, шампанскае, сантэхніка дзеля будаўніцтва катэджаў і іншыя тавары". Сістэматычна прадстаўляліся ссуды Міністэрству хлебапрадуктаў, але ж ніводнага разу не ўдакладнялі іх мэтавае выкарыстаньне. Як вынік - збожжа за гэтыя грошы амаль не паступіла, грошы пайшлі замежным камерсантам.

Белаграпрамбанк, якім кіраваў М.М.Чыгір, выдаваў крэдыты з залічэньнем валюты на разьліковы рахунак камерцыйных фірмаў. Гэтае грубае парушэньне правілаў вядзеньня банкаўскай справы прывяло да таго, што з залічаных на разьліковы рахунак ста сарака мільёнаў рублёў канцэрну Белаграмаш па мэтаваму прызначэньню выкарыстана ўсяго 35 мільёнаў рублёў. Мэтавы крэдыт - ільготны крэдыт з невялікімі працэнтамі. Выкарыстоўваючы яго нямэтавым чынам, фірма нанесла каласальную матэрыяльную шкоду дзяржаве, менавіта ўсім нам, грамадзянам Беларусі. Уздымаючы цэны, раскручваючы інфляцыю, банкіры пры гэтым каласальна нажываліся самыя.

Наступная аперацыя Белаграпрамбанка пад кіраўніцтвам М.М.Чыгіра не дала магчымасьці сялянам пабудаваць свае дамы.

Урадам былі выдзеленыя велізарныя грошы дзеля выдачы крэдытаў на будаўніцтва дамоў сялянам і іншым жыхарам сельскай мясцовасьці. Фактычна ж Белаграпрамбанк гэтыя крэдыты выдаваў начальнікам для пабудовы катэджаў і на іншыя мэты, але толькі не простым аратым.

А вось яшчэ адна арыгінальная зьдзелка міжнароднага маштабу. 29 ліпеня 1993 года банк М.М.Чыгіра выдаў 100 млн. рублёў фіктыўнаму канцэрну, які складаўся з двух чалавек. Гэтыя грошы былі абнаяўлены ў Завадзкім аддзяленьні ашчаднага банка Менска кіраўніком канцэрна... студэнтам Вабішчавым, пасьля чаго зьніклі і студэнт, і грошы. Сьляды прывялі ў Швейцарыю. Праз месяц ад сааўтара афёры прыйшоў ліст у Цюрых. Вось яго тэкст.

"Паважаныя спадары! Не маглі б вы мне дапамагчы адкрыць персанальны рахунак у швейцарскіх франках і амерыканскіх доларах у Швейцарскім крэдытным банку ў Цюрыху?".

Дзіўны вынік: Белаграпрамбанк прафінансаваў сялян, праўда, швейцарскіх, пры гэтым цэны рэзка вырасьлі чамусьці ў Беларусі.

Апетыт прыходзіць падчас ежы. Шостага ліпеня М.М.Чыгір хадайнічае перад Нацыянальным банкам аб вызваленьні крэдытных рэсурсаў. Атрымаўшы васемсот дзесяць мільёнаў рублёў пад закупы цукру, банк пералічыў гэтыя грошы канцэрну Белаграпрам (прэзідэнт - А.Ф.Лугавы). Далей грошы скідваюцца прыватнай фірме "ГЕЯ", а тая пераводзіць грошы неіснуючай амерыканскай фірме "Крышталь" - і грошы растаюць, як цукар. Аднак гарбату п'ем па-ранейшаму не салодкую...

Вынік гэтай махінацыі - рост цэнаў на суму 810 мільёнаў рублёў.

За гэтыя і іншыя парушэньні Закона была прыпынена дзейнасьць генеральнай ліцэньзіі Белаграпрамбанка, а яго кіраўнік М.М.Чыгір - прыцягнуты да адказнасьці па арт. 151/б са спагнаньнем дваццаці мінімальных акладаў. Гэтыя карныя меры абрынуліся на будучага прэм'ер-міністра 23 сакавіка 1994 года, але ён трапіў пад працэсуальную амністыю.

Зьдзелка, аб якой пойдзе мова далей, незвычайная тым, што яна стала прычынай забойства васьмі чалавек: аднаго - у Менску і сямі - у Маскве. Але ніхто не ведае, што ля вытокаў гэтай зьдзелкі стаяў М.М.Чыгір.

4 лістапада 1992 года Белаграпрамбанк заключыў дагавор з Маскоўскай авіятранспартнай кампаніяй "Віцязь" на вызваленьне крэдыту ў 2 млрд. рублёў пад пастаўкі ў Беларусь нафтапрадуктаў. Прычым спасылка на пастаўку нафтапрадуктаў была фактычна ліпай, таму што ў крэдытным дагаворы не былі вызначаны ні тэрміны пастаўляемых нафтапрадуктаў, ні кошт, ні аб'ёмы. Дагавор заключаны на адзін год пад 35 працэнтаў гадавых. Праз пяць дзён М.М.Чыгір даў каманду выдаць крэдыт, хоць грошай ў банку не было.

16 сьнежня М.М.Чыгір піша ліст С.Багданкевічу з просьбай не адмовіць у выдзяленьні цэнтралізаваных рэсурсаў.

17 сьнежня С.Багданкевіч выдае крэдыт. Такім чынам, дакументы сьведчаць: Белаграпрамбанк выдаў маскоўскай кампаніі "Віцязь" цэнтралізаваныя крэдыты раней, чым атрымаў іх ад Нацыянальнага банка. Чым выклікана такая сьпешка?

Над гэтай зьдзелкай вітаў дух небывалага прыбытку. Грошы пайшлі ў Маскву і... зьніклі. Не было і нафты. Амаль праз год англійская фірма "ЛТД-Компані" пачала пастаўляць нафту нібыта за маскоўскую фірму "Віцязь". Пастаўкі хутка былі прыпынены з-за неплацёжаздольнасьці Мінскэнерга Беларусі. Любы з вас можа падумаць, чаму М.Чыгір і С.Багданкевіч не аддалі гэтыя 2 млрд. рублёў Мінскэнерга? Адказ просты - тады мафія засталася б без прыбытку. Прыбытак апынуўся фантастычным, але дзеля гэтага М.Чыгіру трэба было даць станоўчы адказ на адзін ліст. 15 верасьня 1993 года, амаль праз год пасьля заключэньня дагавора, на імя М.Чыгіра паступае ліст ад генеральнага дырэктара "Віцязя". Цытую: "Аднак форма аплаты за пастаўленыя нафтапрадукты прымушае нас зьвярнуцца да вас з просьбай разгледзець пытаньне аб магчымасьці пагашэньня ссуды і працэнтаў па ёй у свабодна канвертуемай валюце на дадаткова вызначаны вамі рахунак па курсу не ніжэй трох тысяч беларускіх рублёў за адзін долар ЗША". М.Чыгір дае згоду на разьлік па курсу 3300 рублёў. Пасьля гэтага 4 кастрычніка 1993 года на карэспандэнцкі рахунак Белаграпрамбанка ў Дубліне паступіла 705 тысяч 263 долара ЗША ад фірмы "Квінт ЛТД" у лік пагашэньня крэдыту. Такім чынам, банк М.Чыгіра, выдаўшы Маскве 2 млрд. рублёў (што саставіла 12 млн. долараў ЗША), праз год атрымаў усяго 705 тысяч. Страта склала каля 12 мільёнаў долараў ЗША. Гэта не ўлічваючы страт ад недапаставак нафтапрадуктаў.

12 млн. долараў ЗША, якія пайшлі ў Маскву, і сталі прычынай мафіёзных разборак і забойстваў, аб якіх гаварылася вышэй.

Аляксандр Лукашэнка, працуючы старшынёй камісіі па барацьбе з карупцыяй, усё гэта добра ведаў і... змаўчаў, хоць павінен быў перадаць дакументы аб узбуджэньні іску, у тым ліку і на М.М.Чыгіра, Генеральнаму пракурору рэспублікі. Замест гэтага Прэзідэнт Лукашэнка "пакараў" М.М.Чыгіра пасадай прэм'ер-міністра.

Паважаныя дэпутаты! Амаль кожны жыхар Беларусі пераканаваны, што мы настолькі бедныя, што не можам плаціць за энерганосьбіты. Нас у гэтым увесь час упэўнівалі ўрадавыя сродкі масавай інфармацыі. На справе ж зьяўляецца, што гэты доўг узьнікае таму, што нас пастаянна абкрадаюць. Да гэтага мы прывыклі... Крыўдна тое, што аферысты замест лавы падсудных трапляюць ва ўрадавыя крэслы. Так было пры В.Ф.Кебічы. Нічога не перамянілася і пры новым цары.

Прывядзем яшчэ адзін доказ сказанаму.

У 1993 годзе Мінэнерга Беларусі павінна было аддаць пазыку Летуве ў 11,3 млрд. расейскіх рублёў. Мінэнерга (міністр Герасімаў) перадаручыла правесьці аплату фірмам "ПУШЭ" і "ФОБАС", пералічыўшы на іх рахункі 15 млрд. беларускіх рублёў. Дазвол на гэтую зьдзелку далі Лінг і Брыль. Нагадаю, што Лінг назначаны Лукашэнкам віцэ-прэм'ерам.

Гарантам фірмаў выступіў Белаграпрамбанк (старшыня М.Чыгір). Фірмы замест таго, каб грошы перавесьці ў Летуву, усю суму выкарысталі ў якасьці абаротных сродкаў, набываючы за іх тавары народнага спажываньня і сыравіну.

Грошы прыносілі прыбытак фірмам амаль год, а доўг за энерганосьбіты не пагашаўся. Толькі пасьля сакавіка 1994 года з дапамогай гаспадарчага суда было спагнана з фірмаў усяго 18 млрд. рублёў, прычым на момант праверкі было вернута толькі 10 працэнтаў ад іскавай сумы.

Згодна зробленым высновам спецыялістаў Кантрольнай палаты, Беларусі была нанесена страта ў 41 млрд.рублёў. Які ж механізм гэтай афёры?

Фарміруецца спецыяльная група, дзе адныя дазваляюць падобную зьдзелку (Лінг, Брыль, Радкевіч); другія, дзеля наданьня трываласьці гэтым зьдзелкам, выступаюць гарантам (Белаграпрамбанк); трэція - фірмачы - дзеляць прыбытак згодна долі кожнага ўдзельніка зьдзелкі.

Якія высновы можна зрабіць з гэтага?

Мафія мае шматаблічны вобраз. Метадаў атрыманьня звышпрыбыткаў за кошт народа вялікае мноства. Зарваўшыхся "слуг народа" могуць спыніць не словы нашага паважанага Прэзідэнта аб карупцыі, а канкрэтныя захады. Таму я прапаную Аляксандру Лукашэнку:

1) звольніць віцэ-прэм'ера Лінга з займаемай пасады;

2) зьвярнуцца ў Пракуратуру, каб тая ўнесла пратэст на рашэньне гаспадарчага суда. Неабходна ў вызначаным парадку спагнаць з Белаграпрамбанка суму страты, так як ён выступаў ў якасьці гаранта.

Безумоўна, Аляксандр Лукашэнка мог бы гэтую суму запатрабаваць з Чыгіра, таму што Прэзідэнт гарантаваў народу, што ён створыць самы сумленны ўрад. А М.М.Чыгір сваімі дзеяньнямі апусьціў павагу да Прэзідэнта "ніжэй калена". Хаця, што возьмеш з М.Чыгіра: акрамя пчальніка і катэджа, напэўна, у яго нічога няма. Я думаю, што Пракуратура павінна даць адказ і на пытаньне, ці быў выдзелены надзел і хто будаваў катэдж.

Наступны фактр таксама выпадковым не назавеш.

Падчас праверкі Белаграпрамбанка спецыялістамі аддзела Ўпраўленьня крэдытных рэсурсаў Нацыянальнага банка быў выяўлены факт неправамоцнай запазычанасьці па крэдыту зноў у 2 млрд. рублёў, выдадзенага амерыканскай фірме "СОВТЭКС" пад пастаўкі нафтапрадуктаў з пагашэньнем 29.09.1993 г. Згодна першапачатковым дакументам, пастаўкі нафты абумоўліваліся ў чэрвені-верасьні, а потым на 1.08 ў лістападзе-студзені, а на 1.09 дадзеных па гэтай фірме зусім няма. Можна меркаваць, што гэта паўтарэньне зьдзелкі з "Віцязем". Узьнікае пытаньне: чаму да гэтае фірмы такія бацькоўскія адносіны ў Белаграпрамбанку? Усё вельмі проста. Саўладальнік фірмы амерыканскі грамадзянін, былы жыхар Беларусі Іосіф Абрамавіч Левітан да таго ж зьяўляецца заснавальнікам і віцэ-прэзідэнтам фонда "Спадчына Чарнобыля", у якой ўпраўляючы справамі Прэзідэнта Ціцянкоў працуе камерцыйным дырэктарам. А як вядома, Ціцянкоў і Чыгір - у адной прэзідэнцкай каманьдзе.

Пакуль наменклатура ля ўлады, чакаць зьменаў у лепшы бок бяссэнсоўна. У старыя мафіёзныя структуры гарманічна ўпісаліся новыя дзейнічаючыя асобы, якіх прывёў з сабою Аляксандр Лукашэнка.

Вось сьвежы выпадак.

Вырашыў урад Лукашэнкі зрабіць закупы збожжа. Ва ўсім сьвеце дзейнічае адпрацаваная схема. Праводзіцца тэндэр, гэта значыць конкурс. Але гэта ва ўсім сьвеце, у нас жа заўсёды "хімічаць". І гэта пры самым сумленным Прэзідэньце. 10 лістапада 1994 года Міністр хлебапрадуктаў Якушаў сумесна з дырэктарам ЗАТ БЕЛАГРАЗАМГАНДАЛЬ Дзядуком прапанавалі прэм'ер-міністру Чыгіру фактычна абрабаваць Беларусь на 20 мільёнаў долараў ЗША. Міністр Якушаў і Дзядук прапанавалі Чыгіру выкарыстаць дзеля набыцьця збожжа грошы ад продажу калійных угнаеньняў за мяжу. Але продаж калійных угнаеньняў за мяжой ажыцьцяўляць па цэнах рэалізацыі іх у Рэспубліцы Беларусь. Унутраная цана - 20 долараў. Цана на сусьветным рынку - 65-70. Не цяжка падлічыць, што страты ад гэтага гандлю складуць больш за 20 мільёнаў долараў ЗША. Чыгір паставіў па прапанове візу "Гаркуну дзеля прапрацоўкі і прапаноў".

Кебіч пачаў разбураць Беларусь, а гэтыя даб'юць яе канчаткова.

І асаблівую ролю ў гэтым Лукашэнка адводзіць, відавочна, Ціцянкову, упраўляючаму справамі Прэзідэнта.

Нягледзячы на сьціпласьць пасады Ціцянкова, ён - фактычна ключавая постаць у каманьдзе Лукашэнкі, яго шэры кардынал, спонсар, давераная асоба. Але, як мне здаецца, і яго палітычны магільшчык. Шматлікія людзі казалі мне: "Не ўключай Ціцянкова ў даклад. Лукашэнка ўсё роўна яго не здасьць". І прыводзілі довады: Ціцянкоў ведае, што перадвыбарчую кампанію Лукашэнкі фінансавалі не толькі беларускія, але і расейскія фірмы. Натуральна яны грашыма так проста не кідаюцца. Цяпер ужо патрабуюць "аддачы" у выглядзе ўласнасьці, выгадных кантрактаў і гэтак далей. А выкарыстаньне грашовых сродкаў з-за мяжы - гэта больш чым парушэньне Закона аб выбарах Прэзідэнта, больш таго, Ціцянкоў быў непасрэдным удзельнікам разам з Шэйманам і сьведкам так званай справы аб замаху. Ціцянкоў зьяўляецца фінансавым спонсарам Лукашэнкі, а ПРЭЗІДЭНТ, як вядома, бедны чалавек. Так што, калі Лукашэнка вызваліць з пасады Ціцянкова, то і сам будзе вымушаны пайсьці ў адстаўку. На ўсё гэта я адказваю: гэта праблемы ПРЭЗІДЭНТА і яго кіруючага справамі. Дзеля мяне галоўнае - ісьціна. А дзеля ісьціны, як вядома, ёсьць толькі "так" ці "не", усё астатняе - ад лукавага.

Першыя зьвесткі аб занятку Ціцянковым камерцыяй былі ў сьнежні 1993 года. У сваім нашумелым дакладзе па пасяджэньні Саўміна былы старшыня КДБ Шыркоўскі падаў канкрэтныя факты карупцыі, прывёў прыклад, што дэпутат ВС, сакратар камісіі па праблемах ліквідацыі Чарнобыльскай катастрофы сп.Ціцянкоў займаецца карупцыяй. Прыкрываючыся благароднымі мэтамі і атрымаўшы грошы нібыта дзеля стварэньня вытворчасьці па вырошчваньню экалагічна чыстых прадуктаў, камерсанты набылі "мерседэсы". Дзе гэтыя чыстыя прадукты? А вось іншамаркі спатрэбіліся. На іх катаўся ў перадвыбарчай барацьбе Лукашэнка. Сёньня ўжо ён абяцае выбаршчыкам пабудаваць заводы па вытворчасьці чыстай прадукцыі і дзіцячага харчаваньня.

Пастановай 309, падпісанай Мясьніковічам, было прынята рашэньне аб стварэньні Міжнароднага аздараўленчага цэнтра "ЧАРНОБЫЛЬСКІ ДОМ". У якасьці ўзносу было пералічана 5 тысяч долараў ЗША. Распараджэньнем N 678, таксама падпісаным Мясьніковічам, фонду "СПАДЧЫНА ЧАРНОБЫЛЯ" дазвалялася выкарыстоўваць будынкі ваенных гарадкоў у Венгрыі і Польшчы. А фонд стварыў камерцыйнае прадпрыемства "СПАДЧЫНА ЧАРНОБЫЛЯ". Сузаснавальнікам фонда стаў Левітан Іосіф Абрамавіч, чалавек, які праходзіў па крымінальнай справе, потым эміграваў у Амерыку. Ён жа зьяўляецца сузаснавальнікам фірмы "СОВТЭКС". Так была створана сістэма, дзе кожны выконваў сваю ролю. Шыльда - дабрачынны фонд "Спадчына Чарнобыля" (пры стварэньні ўдзельнічалі: Кенік - міністр па ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Зубоўскі - дырэктар НПЗ) служыла прынадай і прыкрыцьцём. Дачэрняе прадпрыемства "Спадчына Чарнобыля" ( Ціцянкоў - Левітан ) - камерцыйная структура для правядзення аперацый. Прыватная фірма "СОВТЭКС" - для памнажэньня атрыманых капіталаў і дзяльбы. Ну а, як вы памятаеце, БЕЛАГРАПРАМ - банк Чыгіра - выступаў крэдыторам і гарантам. Натуральна, што ў такой кампаніі рабіць грошы - адно задавальненьне.

І вось як яны "рабілі грошы" на Чарнобыльскай бядзе. Вясной 1992 года прадпрыемства зьвярнулася ў расейскі канцэрн "ЛУКОЙЛ" з просьбай аб выдзяленьні ста тысяч тон нафты. Канцэрн пайшоў насустрач і выдзяліў нафту на дапамогу пацярпелым ад Чарнобыля. Прычым, цана нафты, пастаўляемай з Расеі ў той час, была ніжэй сусьветных цэн. Як толькі нафта паступіла на Беларусь, з ценю выйшаў сапраўдны гаспадар і праарганізатар афёры - фірма "СОВТЭКС". Атрымаўшы прадукты і прадаўшы іх за мяжой, "СОВТЭКС" атрымаў прыбытак у памеры дзесяці мільёнаў двухсот сямідзесяці дзевяці тысяч долараў ЗША. Колькасьць валюты, якую Левітан пералічыў на рахунак фонда ў Венгрыі, аказалася настолькі малой, што выглядала зьдзекам над пацярпелымі ад Чарнобыльскай аварыі.

15 жніўня прадпрыемства "ФАЗІС" заключыла дагавор з фондам Ціцянкова і фірмай "СОВТЭКС" на пастаўку нафты ў Беларусь. Фонд, атрымаўшы крэдыт у 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў, перавёў гэтыя грошы фірме "ФАЗІС", а частку, што засталася, выкарыстаў для экспарту сарака тысяч тон мазута ў Эстонію. Грошы ў Беларусь не вярнуліся, а кіраўніцтва "СОВТЭКС" да заканчэньня тэрміна крэдыта Фонда пагасіла крэдыт новым крэдытам, прадстаўленым БЕЛАГРАПРАМБАНКам Чыгіра.

Адначасова "ФАЗІС" заключыў дагавор з камітэтам па нафтапрадуктах аб абмене ста дзесяці тысяч тон мазута на 42 тысячы тон беньзіна. Пасьля заканчэньня зьдзелкі башкірская фірма "ФАЗІС" афіцыйна паведаміла Дзяржкамнафтапрадукту, што не мае да іх ніякіх прэтэньзій. 14 верасьня 1992 года Савет Міністраў прыняў рашэньне аб ліквідацыі Дзяржкамнафтапрадукта. Была створана ліквідацыйная камісія, якая ў вызначаным законам парадку прымала на працягу трох месяцаў прэтэньзіі. Разьлічыўшыся з усімі даўгамі, прадпрыемства страціла існаваньне. Пытаньнямі нафты і хімічнай прамысловасьці пачала займацца новая дзяржбюджэтная арганізацыя - Камітэт па нафце і хіміі пры Саўміне.

Раптам нечакана прадпрыемства Ціцянкова і фірма "СОВТЭКС" з падачы намесьніка генеральнага пракурора Кандрацьева падала іск новай дзяржбюджэтнай арганізацыі на суму 9 мільярдаў рублёў, быццам бы за даўгі былога Дзяржкамнафтапрадукта башкірскаму "ФАЗІСУ". Вышэйшы гаспадарчы суд адсудзіў на карысьць "СОВТЭКСа" і камерцыйнай структуры Ціцянкова 9 мільярдаў з дзяржаўнай бюджэтнай кішэні. Былы старшыня ліквідацыйнай камісіі Мазанік 15 красавіка піша адчайны ліст у Вярхоўны Савет "Аб страце, нанесенай інтарэсам Рэспублікі Беларусь". Сэнс ліста: "Тэрмінова разьбярыцеся! Рабуюць дзяржаву!". Але ліст, паляжаўшы тры месяцы пад сукном у Кулічкова, нарэшце, трапіў да прэм'ер-міністра М.Чыгіра. Далейшы лёс ліста невядомы. Мне і маёй групе каштавала вялікай працы здабыць хаця б частку гэтага ліста. Бо яго спрабавалі зьнішчыць. Натуральна, ніякіх мераў па лісту не прымалася. Затое ўсім вядома, што Прэзідэнт Лукашэнка прызначыў Кулічкова вертыкальным па Магілёўскай вобласьці. Вядома і тое, што фактычна начальнікам аддзела кадраў у Лукашэнкі зьяўляецца Ціцянкоў.

Такія факты, а высновы вы можаце зрабіць самі. У гэтай сувязі я зьвяртаюся да генеральнага пракурора з просьбай правесьці руплівае рассьледаваньне ўсіх нюансаў гэтай справы, якія прынесьлі велізарныя страты для Беларусі.

# НЕКАЛЬКІ МАФІЁЗНЫХ КЛАНАЎ

## З ЯКІМ ЁН ВЫСТУПІЎ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА 20 СЬНЕЖНЯ 1994 г.

Спадар Прэзідэнт! Адкажыце: калі гэта не карупцыя, дык што? Нафтавы доларавы дождж яшчэ не аднойчы праліваўся ў сейфы Ціцянкова, Левітана і кампаніі. Так, Мозырскі нафтаперапрацоўчы завод. Дырэктар Зубоўскі, ён жа прэзідэнт Фонда "Спадчына Чарнобыля", дзе камерцыйны дырэктар Ціцянкоў, арганізоўвае пастаўку ў Венгрыю 15-ці тысяч тон мазута на суму 1,5 мільёна інвалютных рублёў для пералічэньня фонду. Але было рэалізавана толькі 7435 тон мазута. А выручка ад рэалізацыі гэтага паліва не пералічана на разьліковы рахунак гэтага фонда, а залічана на рахунак прыватнай фірмы "Модзеры БТ".

Думаю, што ні Ціцянкову, ні Зубоўскаму не хочацца, каб пра гэтую фірму гаварылі ўслых. А асабліва аб тым, хто яе ўладальнікі. І мяркуючы па таму як Прэзідэнт Лукашэнка некалькі тыдняў выступае супраць майго дакладу, не хочацца чуць пра гэта і Прэзідэнту.

Формы атрыманьня прыбытку за кошт народа Беларусі розныя.

Распараджэньнем Савета Міністраў ад 5 лютага 1992 года ў мэтах заканчэньня будаўніцтва ў Краснадарскім краі санаторыя "Белая Русь" урад дазволіў Мозырскаму нафтаперапрацоўчаму заводу выкарыстаньне валюты ад продажу трохсот тысяч тон дызельнага паліва для аплаты замежным фірмам за ўдзел у будаўніцтве санаторыя. А ў жніўні па настойлівай ініцыятыве Дзяржкамчарнобыля (кіраўнік - міністр Кенік) і не без падтрымкі чарнобыльскай камісіі Вярхоўнага Савета (сакратар камісіі - Ціцянкоў) Саўмін даў згоду аб уступленьні камітэта ў акцыянернае таварыства па будаўніцтву санаторыя. І дазволіў унесьці ў яго ўстаўны фонд каля аднаго мільярда рублёў. Лёс грошай не вядомы. Затое вядома, што каля чарнобыльскай валюты актыўна замаячылі неразлучныя фонды "Спадчына Чарнобыля" і "СОВТЭКС". У гэтай сувязі я зьвяртаюся да генеральнага пракурора Шаладонава ўзбудзіць крымінальную справу па факту расходваньня бюджэтных грошай, выдзеленых на ліквідацыю вынікаў на ЧАЭС.

Зрошчваньне дзяржаўных і прыватных камерцыйных фірмаў, выкарыстаньне дзяржбюджэтных сродкаў бізнесменамі, якія, зьяўляючыся адначасова і народнымі дэпутатамі, прымаюць рашэньне аб выдзяленьні гэтых грошай - ёсьць класічны прыклад карупцыі.

Ці не праўда, Прэзідэнт Лукашэнка?!

Паважаныя дэпутаты, мы з вамі прынялі закон аб барацьбе са злачыннасьцю ў сферы эканомікі і з карупцыяй. Ён пачаў дзейнічаць 4 жніўня 1993 года. У адпаведнасьці з артыкулам 1 гэтага закона катэгарычна забараняецца дзяржслужачым, спецыялістам органаў дзяржаўнай улады і ўпраўленьня займацца прадпрымальніцкай дзейнасьцю. Той, хто парушыў гэты закон, павінен быць адхілены ад займаемай пасады. Спадар Прэзідэнт, ваша правая рука Ціцянкоў пляваў на гэты закон і, знаходзячыся на пасадзе сакратара камісіі Вярхоўнага Савета, адначасова ствараў і удзельнічаў у дзейнасьці многіх камерцыйных структур. Такіх, напрыклад, як СП "Экспрэс-Сэрвіс-Брама", СП "Тайм-інвест", камерцыйныя прадпрыемствы фонда "Спадчына Чарнобыля" і многія іншыя. Некаторыя з іх выкарыстоўваліся як транзітны канал, па якому скідваліся грошы на перадвыбарчую кампанію Лукашэнкі.

Знаходзячыся на мякьім сядзеньні "Мерседэса" Ціцянкова, Лукашэнка складаў тэзісы сваіх перадвыбарчых антыкарупцыйных выступаў.

Тэатр абсурда!

І вось яна, улада! Да мяне зьвяртаюцца тысячы выбаршчыкаў з адзіным пытаньнем: "Чаму нічога не паляпшаецца, хаця Лукашэнка кіруе шэсьць месяцаў. Наадварот, жыцьцё становіцца горшым і горшым". Адказ просты: "Па справах іх і пазнаеце іх".

Першай справай новая ўлада пасяліла свайго шэфа на дачу, устанавіўшы папярэднюю пагрансістэму вакол плоту. Другой справай улада забрала ў сваё распараджэньне запаведнікі і народныя промыслы. Трэцяй - указала, што неабходна будаваць у першую чаргу.

У адпаведнасьці з рашэньнем кіраўніка справамі Прэзідэнта ад 28 верасьня 1994 года (дакумент зацьверджаны намесьнікам Ціцянкова Кашканом) прадпісваецца: за кошт дзяржаўных цэнтралізаваных капітальных укладаньняў, фінансуемых за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, у 1994 годзе пабудаваць гасьцініцу ў Белавежскай Пушчы і пяць катэджаў там жа. У Бярэзінскім запаведніку - яшчэ пяць катэджаў, рэканструяваць у Бешанковіцкім раёне Дом адпачынку. Аздараўленчы комплекс з газіфікацыяй у Заслаўлі і, "О, цуд!", Цэнтр камерцыйных сувязяў з гасьцінічным комплексам па праспекту Машэрава. Гэта былі першачарговыя задачы савецкай улады ў выкананьні каманды Лукашэнкі.

Потым прыйшоў час раздаваць кватэры. За ўзор быў узяты вопыт Ціцянкова. Ён атрымаў на сям'ю з трох чалавек кватэру больш 100 квадратных метраў. А далей пачаўся своеасаблівы прэзідэнцкі рэкет!

18.10.94 Ціцянкоў зьвяртаецца да старшыні Менскага аблвыканкама Цішкевіча з прапановай перадаць Упраўленьню справамі Прэзідэнта памяшканьні для... арганізацыі гандлю з разьліку па адной краме ў раённых цэнтрах і гарадах абласнога падпарадкаваньня. Вось узор сьціпласьці! Кожнаму члену прэзідэнцкай каманды па краме, ды не проста! Цытую ліст Ціцянкова: "Пры вырашэньні гэтага пытаньня неабходна ўлічыць, каб выдзяляемыя памяшканьні былі разьмешчаны ў цэнтральнай частцы горада ці ў іншых месцах з інтэнсіўным рухам насельніцтва".

28-е лістапада 1994 года азнаменавалася новай эрай узаемаадносін дзяржаўных структур з камерцыйнымі. Такое не сьнілася нават Кебічу.

У гэты ж дзень Упраўленьне справамі Прэзідэнта перадало плошчы па вуліцы Гарадзкі вал, 7-а сумеснаму беларуска-расейска-швейцарскаму прадпрыемству пад офіс. Дзяржаўная маёмасьць трапіла ў рукі фірмы, якая складаецца з трох беларускіх грамадзян і іх сваякоў, якія жывуць за межамі. Можа, Прэзідэнт зноў не заўважыць у гэтым факце карупцыі?

Перападпарадкаваўшы сабе гаспадарку Атоліна, дзе былыя сакратары ЦК КПБ мелі персанальных кароў, Упраўленьне справамі Прэзідэнта зрабіла магутнае фінансавае ўліваньне ў гэтую гаспадарку. Канешне, за кошт бюджэту! Лічу, што Пракуратуры трэба разабрацца, на што канкрэтна пайшлі дзяржаўныя грошы.

Карупцыянераў у прэзідэнцкай каманьдзе можна разьдзяліць на дзьве часткі: на тых, хто застаўся ў спадчыну ад Кебіча, і тых, каго ён паставіў на высокія пасады.

Разгараецца скандал вакол незаконнай перадачы дзяржаўнай уласнасьці Беларускага ўпраўленьня грамадзянскай авіяцыі ў прыватную кампанію "БЕЛЭЙР", якая зараз практычна належыць аднаму чалавеку - Кузьміну. Дзяржаўная ўласнасьць на мільёны долараў перададзена ў прыватныя рукі, а кіраўнікі грамадзянскай авіяцыі Фёдараў і Рыжыкаў застаюцца на сваіх пасадах. Загадка: чаму не здымае іх Лукашэнка. Думаю, што адказ ведае толькі Ціцянкоў.

А скандал з Дзяржкамспортам, калі ў таямніцы ад усіх быў адкрыты рахунак у Швейцарскім банку. Пра гэта ведалі толькі старшыня Дзяржкамспорту Рыжанкоў і яго служба. За кошт казны будаваліся катэджы; ёсьць дакументы аб перакідцы буйных сум грошай для закупкі будматэрыялаў. Кантрольныя органы падрыхтавалі даведку, у якой ставяць пытаньне аб адхіленьні Рыжанкова ад займаемай пасады. І зноў уключаюцца нябачныя рычагі, якія робяць гэтых людзей непатапляльнымі.

Калі ацаніць дзейнасьць Ціцянкова з улікам закона барацьбы з карупцыяй, то яго ўжо трэба было б дзесяткі разоў адхіліць ад пасады. Гэтак жа трэба было б паступіць і з многімі міністрамі, якія заплямілі сябе карупцыяй, але яны на сваіх пасадах працягваюць правіць карупцыйны баль. І я лічу, што ў дадзеным выпадку мы маем яскравы прыклад асобага віда карупцыі - кадравай. Калі карупцыя ўвогуле - гэта выкарыстаньне чыноўнікам службовага становішча для атрыманьня пераваг у любой форме, то КАДРАВАЯ КАРУПЦЫЯ - гэта выкарыстаньне кіраўніком кампрамату на ніжэй стаячага чыноўніка для ўмацаваньня сваёй улады. Такім чынам, зрабіўшы падначаленага залежным, міністр, начальнік раёна ці Прэзідэнт атрымлівае нічым не абмежаваную ўладу, якую выкарыстоўвае ў сваіх асабістых інтарэсах.

Вось чаму, шаноўныя выбаршчыкі, з прыходам Лукашэнкі нічога не зьмянілася, а стала яшчэ горш.

Яскравым прыкладам кадравай карупцыі зьяўляецца прызначэньне міністрам абароны былога камандуючага Беларускай вайсковай акругай генерала Кастэнкі.

Усім вядома, што калі ён быў камандуючым БВА, карупцыя ў войску раськвітнела. Вось толькі некалькі характэрных прыкладаў.

У адной з частак былі створаны 80 камерцыйных структур. З верасьня 1991 года па красавік 1992 гэтымі фірмамі за бясцэнак было прададзена дзьвесьце аўтамашын, 69 электрастанцый, 100 бензавозаў, 5 вялікіх артылерыйскіх цягачоў, 50 кіламетраў шматжыльнага кабелю і іншых матэрыялаў. Страты ад такой камерцыі, па ацэнцы кантрольных органаў, склалі больш мільярда рублёў. Прычым, сузаснавальнікам шэрагу камерцыйных структур у вайсковых частках зьяўляліся бізнесмены з Расеі. У другой асобнай арміі СПА было створана 42 камерцыйныя структуры. Рабавалі не саромеючыся. Напрыклад, на 25-м арсенале РВСН былі прададзены 107 дзевяцітонных кантэйнераў з-пад ракет фірмам "ПІРЫТ" і "АЎТАМАГІСТРА". Тыя, у сваю чаргу, перапрадалі іх у Чэхаславакію ў 8 разоў даражэй. У студзені-сакавіку 1992 года з тэрыторыі вайсковай часткі 42654 г.Рэчыца ў чыгуначным транспарце, так званых вагонах прыкрыцьця, вывозілася за мяжу вайсковае абсталяваньне, буйныя партыі піламатэрыялаў. Дайшлі да таго, што па-варварску вырубілі ўвесь лес на тэрыторыі аб'екта. Такія выпадкі вывазу леса былі масавымі.

Але былі зьдзелкі, якія па сваёй нахабнасьці і маштабам не маюць аналагаў у сусьветнай практыцы. Да іх адносіцца продаж каманднага пункта Варшаўскага дагавору. Пра яго многія чулі, але мала хто ведае, што Кастэнка непасрэдна прымаў удзел у яго рэалізацыі. Ёсьць дакумент, падпісаны Кастэнкам, у якім ён фактычна даў дабро на рэалізацыю абсталяваньня і матэрыяльных каштоўнасьцяў з аб'екта. На адным з афіцэрскіх сходаў на пытаньне аб правамоцнасьці гэтай зьдзелкі Кастэнка цынічна адказаў, што размова ідзе аб падвале, які прыгодны толькі для захоўваньня бульбы. Нагадаю, гэты падземны горад быў аснашчаны ўнікальным абсталяваньнем і ацэньваўся ў 60 мільярдаў рублёў, а прадалі яго за 18 мільёнаў. Страты склалі 59 мільярдаў рублёў. Прычым, гарадкі-спадарожнікі аддалі бясплатна, а створаныя на аб'екце малыя прадпрыемствы вывозілі абсталяваньне, якое засталося. Па іроніі лёсу начальнік контрразьведкі Кез, цяперашні намесьнік старшыні КДБ Беларусі, у той час інфармаваў пра гэтае злачынства. Што яму перашкодзіла ўспомніць пра гэты факт, калі Лукашэнка назначыў Кастэнку на пасаду міністра абароны? Вядома, кадравая карупцыя.

У пачатку 1992 года было рэалізавана 36 аб'ектаў, будынкаў і пабудоў у Мозыры, пры гэтым таварыству з абмежаванай абказнасьцю "Палесьсе ЛТД" прададзена 19 аб'ектаў усяго за 200 тысяч рублёў, а кааператыву "Маналіт-2" - 17 аб'ектаў за 123 тысячы. Армію папросту рабавалі пры патураньні камандуючага Кастэнкі. Што рабіла яго бліжэйшае атачэньне? Камандуючы СПА генерал-лейтэнант Асмалоўскі ў жніўні 1991 года вырашыў правесьці тэлефон да сябе на дачу пад Лагойскам. Па яго патрабаваньню намаганьнямі войска сувязі было ўкладзена 20 кіламетраў кабелю з паглыбленьнем яго на 80 сантыметраў. Страты склалі сотні мільёнаў рублёў. Акрамя таго, у парушэньне дзейнічаючага заканадаўства Асмалоўскі абавязаў каманьдзіраў вайсковых частак здаваць у арэнду камерцыйным структурам тэрыторыі і збудаваньні па заніжаных стаўках.

Найбольш амаральныя факты - выкарыстаньне ў якасьці рабоў жаўнераў тэрміновай службы на будаўніцтве дач, работы на іх прысядзібных участках, рамонтах кватэр. У былога намесьніка камандуючага па тылу Іваніцкага на будаўніцтве дачы адпрацавана больш за 1000 чалавекадзён воінамі тэрміновай службы, больш за 300 чалавекадзён - на дачы начальніка штаба арміі генерал-маёра Раманенкі. За шэсьць месяцаў была пабудавана трохпавярховая дача пад ключ.

Пад кіраўніцтвам Кастэнкі служыў і начальнік палітаддзела палкоўнік Посахаў. У 1991 годзе ён, парушаючы закон, выкарыстаў аўтатранспарт у асабістых мэтах.

Злоўлены за руку, ён быў вымушаны заплаціць ў ходзе праверкі за нанесеныя страты. У народзе пра такіх кажуць - крыхаборы. Зараз Посахаў - дарадчык Лукашэнкі. Посахаў да таго ж арганізатар руху ў падтрымку Прэзідэнта пад назвай "АЧЫШЧЭНЬНЕ". У прынцыпе, усе хрысьціяне ачышчаюцца ў царкве. Вышэйшая ўлада - не месца для такіх вельмі інтымных актаў.

У 1992 годзе па шматлікіх просьбах цэнтральнага апарата Міністэрства абароны была праведзена пракурорская праверка па фактах злоўжываньня службовых асобаў пры разьмеркаваньні жылля. Праверкай высьветлены грубыя парушэньні жыльлёвага кодэксу. Гэтыя парушэньні былі дапушчаны, цытую з даведкі: былым камандуючым БВА Кастэнкам. Генерал-палкоўнік Кастэнка, карыстаючыся ўладай камандуючага войскамі акругі, не прытрымліваўся прынцыпаў сацыяльнай справядлівасьці ў разьмеркаваньні жылля, без рашэньня жыльлёвай камісіі пад рознымі матывамі выдзяляў кватэры палепшанай планіроўкі падначаленым афіцэрам.

У верасьні 1990 года без рашэньня камісіі Кастэнка па-за чаргой выдзеліў кватэру N 6 па вул.Трактарнай,5 начальніку тыла ВПС Васільеву. У чэрвені 1991 года - трохпакаёвую кватэру начальніку жыльлёвага аддзела КЭЧ БВА падпалкоўніку Кадзінцу М.К., а 6-га красавіка 1994 года - зяцю Кадзінца. Аналагічна ў жніўні 1991 года выдзеліў кватэру сыну начальніка жыльлёвай групы Сідарава, які не стаяў у чарзе на атрыманьне жылля. У парушэньне артыкула 298 ЖК РБ Кастэнка на склад сваёй сям'і з трох чалавек без дазволу жыльлёвай камісіі атрымаў 5-пакаёвую кватэру плошчай 93 кв.м на завулку Вайсковым,9, чым перавысіў вызначаную норму жыльлёвай плошчы на 47 кв.м. Гэта пры тым, што на чарзе на атрыманьне жылля стаяць 1320 сем'яў афіцэраў толькі ў цэнтральным апараце і больш за 600 бескватэрных, звольненых у запас.

Усе мы памятаем, як на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутаты патрабавалі, каб Кастэнка адказаў з трыбуны за развал у войсках, за разрабаваньне ў войсках і карупцыю. Але ён не быў заслуханы, а так і быў звольнены ў запас, і, мне памятаецца, Шушкевіч сказаў: "Не магу ж я запрасіць пеньсіянера з Масквы на парламенцкія слуханьні!" Дарэчы, нават Кебіч, ведаючы, што робіцца ў войсках, не рызыкнуў паставіць Кастэнку міністрам абароны. Спачатку папярэдзіў яго пра службовую неадпаведнасьць, а потым, скараціўшы яго пасаду, накіраваў у запас.

Якім жа было зьдзіўленьне, калі, фарміруючы быццам бы сумленны ўрад, самы галоўны змагар з карупцыяй Прэзідэнт Лукашэнка выбраў Кастэнку. Ведаў жа Лукашэнка пра Кастэнку ўсё, але заявіў: "Затое ён будзе мне верны". І сапраўды, ён верны Прэзідэнту і... сваім звычкам. У горадзе Бабруйску ўжо зараз пад кіраўніцтвам палкоўніка Жарабцова В.А. запрацавала фірма "Залаты век". Гэта вайскова-камерцыйная структура, якая рэалізуе тэхніку па заніжаных цэнах, наносячы страты дзяржаве.

Страты дзяржаве наносяцца і наступным чынам. Загадам 0600 сын Кастэнкі назначаны начальнікам 3-га аддзяленьня Першамайскага РВК на пасаду палкоўніка. Гэтым жа загадам павышаны па службе старэйшы лейтэнант Міклашэвіч Андрэй Віктаравіч - сын начальніка аддзела Савета бясьпекі, створанага Прэзідэнтам. Гэта грубае парушэньне палажэньня аб праходжаньні службы афіцэрскім складам, бо на апошняй пасадзе ён не прабыў і года.

Не забыты і народны дэпутат Шэйман - дзяржсакратар Савета бясьпекі. Яму прысвоена званьне палкоўніка датэрмінова. За што? На пасадзе дзяржсакратара ён з 5-га жніўня гэтага года. Да гэтага пасада маёра начальніка штаба. Акадэмічнай адукацыі не мае. І як Напалеон, бітваў не выйграваў, не лічачы, канешне, Лііозненскай кампаніі. Дарэчы, пасаду Шэймана Прэзідэнт зраўняў з пасадай міністра абароны. Так што рыхтуецца народны абраньнік да генеральскіх пагонаў, казна ўсё вытрымае. Толькі як быць з кадравымі афіцэрамі?

**(Заканчэньне на ст. 4).**

# БЕЛАРУСЬСЮ СЁНЬНЯ КІРУЮЦЬ НЕКАЛЬКІ МАФІЁЗНЫХ КЛАНАЎ

(Заканчэньне. Пачатак на ст. 2,3).

У краіне грошай хапае на паездкі афіцыйных дэлегатаў Міністэрства абароны.

У лістападзе 1994 года па запрашэньню англійскага Міністэрства абароны для подпісу мемарандума аб супрацоўніцтве ў галіне абароны да Лондану езьдзіла дэлегацыя Міністэрства абароны ў складзе: Міністр абароны, яго жонка Цьвяткова, перакладчык і яшчэ адзін ваеннаслужачы. Не выключана, што ў Прэзідэнта ёсьць намер прызначыць Цьвяткову нам.міністра абароны. Але чаму яна зараз у складзе ваеннай дэлегацыі і наноў за лік бюджэту - невядома.

У сувязі з вышэйвыкладзеным, у мяне пытаньне да Прэзідэнта: "Няўжо вы лічыце, што ў беларускім войску выключна ўсе афіцэры парушаюць закон і займаюцца карупцыяй? Не можа гэтага быць, каб Вы не мелі выбару пры прызначэньні міністра абароны. Я ў гэта не веру. Не верaць у гэта і выбаршчыкі!

Спрабуючы зрабіць сваю ўладу безкантрольнай, адміністрацыя Прэзідэнта манапалізуе сістэму кантролю. Зьнішчаны дэпартамент эканамічнага кантролю пры Саўміне (гэта ўжо давяло да таго, што, ўзбуджаючы іскі, зьвязаныя з крадзяжамі, немагчыма правесьці рэвізію, ідзе ціск на Кантрольную Палату. Апошні час больш частымі сталі спробы "прыватызаваць" Пракуратуру. Наўзамен Прэзідэнтам прапануецца кішэнная сістэма кантролю, якая толькі выконвае ролю палітычнага дубца супраць няўгодных ці маючых уласную пазіцыю. Кіруе гэтай "адмысловай" структурай Даўгалёў. Вы, вядома, здагадаліся, па якіх адзнаках А.Р.Лукашэнка падабраў гэтую кандыдатуру.

Вось адна з характарыстык новасьпечанага кантралёра, узятая з матэрыялаў пракурорскага расьледаваньня: "Аддзелам ашчадбанка незаконна выдадзены крэдыт ад 17.12.92 на суму 600000 рублёў пад 5% на індывідуальнае будаўніцтва".

З даведкі, падпісанай намесьнікам генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Сашчанкам, "...органамі пракуратуры ўстаноўлены асобныя парушэньні жыллёвага заканадаўства пры атрыманьні жыльля некаторымі народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь.. Так, адміністрацыя і прафсаюзны камітэт Рагачоўскага завода "Дыапраектар" у парушэньне заканадаўства далі дазвол Даўгалёў А.Б. на абмен двухпакаёвай кватэры N 111 дома N 115-а па вул. Багатырова (жыл.плошчай 26,88 кв.м, склад сям'і - 4 чалавекі) на трохпакаёвую кватэру брата - Даўгалёва В.Б. (40,9 кв.м, склад сям'і - 4 чалавекі). Рагачоўскі выканкам рашэньнем N 118 ад 17.04.91 адмовіў у абмене жыльля, палічыўшы, што ён мае фіктыўны характар, паколькі народны дэпутат Даўгалёў В.Б. зьбіраўся пераязджаць з сям'ёй на сталае месца жыхарства ў Менск і не меў намеру пражываць у двухпакаёвай кватэры брата. Аднак, хаця пагадненьне аб абмене жыльля ў сілу не ўвайшло, пасьля ад'езду Даўгалёва В.Б. ў Менск у яго кватэру засяліўся Даўгалёў А.Б.- брат.

Рагачоўскім межрайпракурорам 13.12.93 ўнесена прадстаўленьне дырэктару завода "Дыапраектар" аб адмене незаконнага рашэньня аб абмене жыльля. Застаецца дадаць, што Даўгалёў прапаваў намесьнікам дырэктара гэтага завода.

А ўвогуле, цікавая публіка зьбіраецца пад кіраўніцтвам Даўгалёва - прэзідэнцкага кантралёра.

Начальнік юрыдычнага ўпраўленьня Службы кантролю Прэзідэнта Бандарэнка быў выгнаны з Кантрольнай Палаты за карыстаньне незаконна атрыманым пасьведчаньнем удзельніка ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

На пасаду начальніка галоўнага ўпраўленьня Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па Віцебскай вобласьці прызначаны Н.А.Бялоў. Перад гэтым прызначэньнем ён кіраваў з 1991 па 1994 г.г. фондам сацыяльнай абароны насельніцтва па Віцебскай вобласьці. Праўда, абараняў ён не пенсіянераў, а камерцыйныя банкі. Так, па выніках праверкі начальнікам АБЭЗ па Віцебскай вобласьці было выяўлена, што ў той час, калі пенсіянерам не выплачваліся пенсіі, Бялоў прадаваў гэтыя грошы камерцыйным банкам. Так, продаж грашовых рэсурсаў камерцыйным банкам у 1991 годзе склаў 186 млн.руб., у 1992 г. - 1 млрд. 499 млн. 500 тыс. руб., у 1993 годзе - 17 млрд. 661 млн.руб. Па гэтых прычынах і зьмяшчаліся даты выплаты пенсій пенсіянерам. У той час, калі будучы прэзідэнцкі кантралёр Бялоў дапамагаў бізнесменам багацець на пенсіённых грошы, інфляцыя дапамагала пенсіянерам бяднець. Вось якіх спецыялістаў узяў да сябе Лукашэнка для рэалізацыі сваёй перадвыбарчай праграмы - абароны бедных і абяздоленых.

Калі супрацоўнікі арэнднага прадпрыемства ПКБ МІНСКАБЛАГРАПРАМБУД зьвярнуліся да Прэзідэнта Беларусі з тым, што іх нахабна, парушаючы Канстытуцыю, выкідаюць на вуліцу, а замест іх засяляюць камерцыйныя структуры, параду ж яны атрымалі ад Даўгалёва: "Усё нармальна", маўляў, так і трэба.

У прынцыпе, іншага ад такой службы кантролю чакаць і не даводзіцца.

Паважаныя народныя дэпутаты! Паважаныя выбаршчыкі!

Дзейнасьць прэзідэнцкіх кантралёраў і прадстаўнікоў час ад часу набывае трагікамічны характар. Усім нам практычна немагчыма ўявіць, што прадстаўнік Біла Клінтана лётае з пісталетам па рынку і высьвятляе адносіны з алкашамі і хуліганамі. А для прадстаўніка Прэзідэнта Лукашэнкі Кучынскага - гэта норма.

Мне як беларусу, жыхару эўрапейскай дзяржавы, сорамна за такіх прадстаўнікоў Прэзідэнта. Хаця неабходна зразумець - улада спецыяльна ператвараецца ў нішто, каб канчаткова разбурыць дзяржаўнасьць Беларусі.

Паважаныя народныя дэпутаты! Я азнаёміў зараз вас з цікавым дакументам. Глава адміністрацыі прэзідэнта Л.Р.Сініцын дае загады, хто за кім павінен сачыць. Інфармацыю ён патрабуе даваць у форме даносу-аб'ектыўкі. Прадпісваецца: "У мэтах арганізацыі інфармацыйнага забесьпячэньня Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і правядзеньня дзяржаўнай кадравай палітыкі прашу рэгулярна прадстаўляць у Камітэт па барацьбе з карупцыяй у шэрагах дзяржаўнай улады і ўпраўленьня інфармацыю аб раскрытых фактах карупцыі з боку пасадных асоб дзяржаўных органаў (сьпіс дадаецца). Дадаецца і форма, па якой неабходна пісаць аб'ектыўкі, вельмі падобныя на данос".

Паколькі вы прапанавалі такую форму збору кампрамату на людзей, то з вас і пачнем. Леанід Сініцын - Старшыня адміністрацыі Прэзідэнта. Раздзел 1-шы выкладаньня факту ці падзеі: запаўняем!

У адпаведнасьці з пунктам 5 інструкцыі аб парадку набыцьця агнястрэльнай зброі карабіны выдаюцца паляўнічым-прамыславікам, а таксама паляўнічым-аматарам, удзельнічаючым у таварных адстрэлах дзікіх жывёл і маючым стаж не меней пяці год. У парушэньне гэтых палажэньняў 18 лютага 1992 года народны дэпутат Сініцын набыў карабін СКС, прычым па цане, у восем разоў таньнейшай. Страты, што нанёс Сініцын дзяржаве, эквівалентны коштy легкавіка "Масквіч".

Графа крыніца інфармацыі: даведка праверкі падпісаная памочнікам Беларускага вайсковага пракурора - палкоўнікам юстыцыі П.Палікарпавым.

Раздзел N 2.

Фірма "Белбудсэрвіс" - фірма спадара Сініцына. Пры стварэньні аднаго беларуска-канадзка-амерыканскага СП "Белбудсэрвіс", не маючы на гэта згоды ўласьнікаў, унёс ва ўстаноўчы фонд матэрыяльныя рэсурсы на суму адзін мільён сто трыццаць чатыры тысячы долараў ЗША. Хто панёс адказнасьць за страты?

Крыніца інфармацыі: канфідэнцыяльная асоба.

Маючы невялікі прыбытак, Сініцын, будучы народным дэпутатам, невядома які з чыйго кошт накіраваў у Х'юстан вучыцца сына, які быў адлічаны за непасьпяховасьць з ліцэя.

Крыніца інфармацыі: міністэрства адукацыі.

За асабістую нясьціпласьць, парушэньні закона аб барацьбе з карупцыяй у разьдзеле займаньня прадпрымальніцкай дзейнасьцю праз пасярэднікаў ці давераных асобаў, і нанясеньне страты дзяржаве пры куплі тавараў народнага спажываньня па зьніжаным цэнам прашу Прэзідэнта А.Р.Лукашэнку адхіліць Л.Сініцына ад займаемай пасады. Адзінае, у чым магу пагадзіцца з А.Р.Лукашэнкам, што болей улада спакушае нястойкіх людзей. А калі чыноўніку, як кажуць у народзе,да лямпачкі сама дзяржава і яе народ, то яму не застаецца нічога іншага, як займацца самім сабой, г.зн. красьці.

Калі хто думае, што памеры карупцыі і нанесеныя Беларусі страты пры ўладзе А.Р.Лукашэнкі зьменшыліся, то ён глыбока памыляецца.

Старшыня камітэту па нафце спадар Лойка падпісаў кантракт з фірмай "Падзгіга" з Масквы на суму каля шасьці мільярдаў рублёў. Гэта зьдзелка адбылася ўжо пры новай адміністрацыі. Да гэтага часу ні грошай, ні нафтапрадуктаў няма. Канцэрн "Жылкамунгаз" пералічыў праз "Белнафтапрадукт" тры мільярды семсот тысяч рублёў у Расею. Грошы хадзілі па банках каля 4-х месяцаў, прынасілі прыбытак расейскім камерсантам, і толькі сёньня пачала паступаць нафта. Факты можна дожыць.

Аднак усю маю групу шакіравалі сакрэтны ЎКАЗ Прэзідэнта N 233 ад трэцяга сьнежня 1994 года. Гэтым указам Лукашэнка як бы заявіў: "Я таксама жадаю займацца камерцыяй". Парушаючы ўсе законы, ён сваім указам даў распараджэньне прадугледзець у эканамічнай праграме ўрада на 1995 год выдзяленьне ўпраўленьню справамі Прэзідэнта сродкаў у суме 14 мільёнаў долараў ЗША на будаўніцтва ўсё таго ж камерцыйнага цэнтру па праспекту Машэрава. Прычым, даручыў Міністэрству па ўпраўленьню дзяржаўнай уласнасьцю мець справу толькі з тымі фірмамі, на якія пакажа Ціцянкоў. Аляксандр Рыгоравіч, вы хоць разумееце, што гэты ўказ - ёсьць пачатак велізарнай карупцыйнай кампаніі? Верагодна. Таму і паставілі грыф "не для друку".

Жаданьне кіраваць, папіраючы ўсе законы, вымушае час ад часу казаць няпраўду. 26 лістапада 1994 года ў інтэрв'ю "Звяздзе" А.Р.Лукашэнка казаў наконт скандалу вакол продажу сакрэтнага ракетнага комплекса С-300, што, цытую, "гэты комплекс даўно б прадалі, калі б не Лукашэнка. Я калі б і жадаў, то не магу яго прадаць. Гэта сакрэтны комплекс выраблены ў Расеі з удзелам Беларусі. А калі мы партнёры і жадаем гандляваць разумна, то такія крокі неабходна рабіць разам. Я прыпыніў выкананьне кантракту, хоць мяне настойліва пхаюць: мы павінны яго прадаць. Мы разьбярэмся, у каго тут ёсьць асабістыя інтарэсы" (канец цытаты). Нагадаю вам, што гэта інтэрв'ю выйшла 26 лістапада. А дакумент, які я трымаю ў руках - акт перадачы комплекса С-300 16 лістапада камерцыйнай структуры "Белтэхэкспарт" 16 лістапада. Нядаўна сакрэтны комплекс пакінуў межы Беларусі".

Цяпер ужо ў мяне ёсьць пытаньне да Вас, у чым прычына таго, што Вы, даючы інтэрв'ю, гаварылі ману. Хоць для Вас гэта, на жаль, стала прывычнай справай.Паважаныя народныя дэпутаты! Паважаныя выбаршчыкі!

На вялікі жаль, даводзіцца канстатаваць, што барацьба з карупцыяй, пра якую так шмат казаў наш Прэзідэнт, дайшла да нулявога выніка. Больш таго, карупцыя стала больш скрытай, больш арганізаванай, больш сквапнай, і таму рэзка ўзрасла яе небясьпека для нашага грамадзтва і дзяржавы.

Факты, выкладзеныя мною, гэта пацьвердзілі. На жаль, Прэзідэнт так і не зразумеў, што крыніцай карупцыі ў любой дзяржаве зьяўляецца наяўнасьць у чыноўніка трох праў: дазваляць, забараняць і распараджацца. Чым больш такіх правоў у чыноўніка, тым мацней карупцыя. І пагэтаму адміністратыўныя метады, якія выкарыстоўваюцца ў барацьбе з гэтым злом, не даюць вынікаў. Можна ўзбудзіць тысячу крымінальных спраў па будаўніцтву катэджаў, вынік будзе нулявы. Прыняцьце Закона аб падатку на нерухомасьць створыць магчымасьць пераразьмеркаваць грошы ад багатых да бедных. Можна забараняць, атрымліваць надзелы ў прыродаахоўчай зоне - гэта таксама ні да чаго не прывядзе. Але можна прыняць закон аб спецыяльным падатку на такую зямлю, і праблема аховы прыроды адразу будзе вырашана. Можна бясконца накіроўваць прапаршчыкаў з пісталетамі на раёны, запалохваючы і прыніжаючы кадры, а можна стварыць орган мясцовага самакіраваньня з прамым падпарадкаваньнем выбаршчыкам, уласным бюджэтам, і ўлада адразу прыдбае сілу.

На жаль, час майго дакладу абмежаваны і пагэтаму я не магу выкласьці факты карупцыйнай дзейнасьці прадстаўнікоў прэзідэнцкай вертыкалі. Гэта я гатовы зрабіць у наступным інфармацыйным паведамленьні, калі на гэта будзе ваша воля.

Я думаю, што сёньняшняя наша размова - горкі і цяжкі, але неабходны ўрок для нашага Прэзідэнта, а таксама тых, хто лічыць, што дзяржаўная ўлада - гэта яго ўласнасьць, яго вотчына. Неабходна зразумець, што сёньня ўжо недастаткова быць толькі сумленным. Сёньня неабходны інтэлект, культура, прагматызм, мудрасьць, павага, цярпімасьць.

Я прашу Вас, паважаны Прэзідэнт, не выкарыстоўвайце словы пра чэснасьць. Чэснасьць - гэта не толькі адноўчы сказаць праўду. Гэта, у першую чаргу, прызнаньне сваёй нездольнасьці. Трэба ўмець своечасова адыйсьці ад улады, не чакаючы народнага бунту. Чэснасьць - гэта ўменьне прызнаць, што перапынак у шэсьць месяцаў, які зьвязаны з фармiраваньнем прэзідэнцкай каманды, ёсьць злачыннасьць супраць свайго народа. Кожны дзень адсутнасьці рэформаў адкідае Беларусь далёка назад. Чэснасьць - гэта не пахазуха свайго гонару з маніякальнымі прэтэнзіямі на права ісьціны. Гэта ўменьне прызнаць, што хтосьці разумнейшы за цябе. Наркшце, чэснасьць для кіраўніка - гэта работа ў імя нацыянальных інтарэсаў. Імкненьне да здачы дзяржаўнай незалежнасьці каму б гэта ні было - ёсьць прызнак глабальнай палітычнай карупцыі.

Калі да канца быць чэсным мне, то я павінен сказаць Вам. Падумайце, можа, Вам ёсьць сэнс адыйсьці. За сьценамі гэтай залы ляжыць змардаваная, абарваная, шматпакутная Беларусь. Яна проста ўжо не вытрымае дылетанства і здрады.

Я спадзяюся, што мой даклад дапаможа вам - тым, хто ўжо страціў надзею, тым, хто любіць сваю Радзіму і гатовы для яе працаваць, як бы ні было цяжка.

# На тыдзень

*ПЯТНІЦА, 30.12*

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

8.00 Навіны 8.10, 2.05 Дайджэст 8.20, 18.25 Пяць хвілін на жарты 8.25 "Утрапеная Айседора", муз. фільм 9.00 Тэлебачанне — школе. "Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці" 9.35 Вытокі 9.45 Мультфільмы 10.25 "Рысь вяртаецца", м/ф 14.50 "Агмень". Мастачка Т. Стагановіч 15.15 "Мой любімы клоўн", м/ф 16.45 "Калядныя святкі" 17.00 Навіны (з сурдаперакладам) 17.10 "Сваімі рукамі" 17.25, 19.20 "Залатая ліра". Лепшыя песні году 18.10 Навіны (Магілёў) 18.35 Навіны ВВС 19.10 Эканамікст 20.05 Дзелавы веснік 20.20 "Дамавічок". Прэм'ера цыкла 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Анталогія гумару 22.20 Пад купалам Сусвету 22.30 "Нов і К"-топ-10 23.30 НІКа 23.50 "Каханне з прывілеямі", м/ф

**КАНАЛ "АСТАНКІНА"**

5.30 Раніца 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 17.50, 22.50, 0.50, 1.50 Навіны 8.00 Сарока 8.20, 18.25 "Дзікая Роза" 9.00 Дапамажы сабе сам 9.30 "Зорачкі на паркеце". Фестываль спартыўных танцаў 14.00 Прадпрымальнік 15.00 "Навагоднія прыгоды Машы і Віці", м/ф 16.20 Рок-урок 16.50 Свет сёння 17.00 Чалавек і закон 17.30 Галасы Расіі 17.40, 20.30 Надвор'е 17.45 "Хто ёсць хто. XX стагоддзе". Луі дэ Фюнес 18.00 Бамонд 18.55, 20.40 Поле цудаў 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Час 21.10 Чалавек тыдня 21.30 Ралі Парыж—Гранада—Дакар 21.35 "Жыў-быў паліцэйскі", м/ф (Францыя—Італія) 23.30 "Погляд" 0.10 Прэс-экспрэс 0.15 Музагляд 1.00 "Сустрэнемся на Таіці", м/ф

**КАНАЛ "РАСІЯ"**

6.30 Формула-730 7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.20 Патрабуюцца... патрабуюцца... 7.30 Час дзелавых людзей 8.00 Навіны АВС 8.25 Паехалі 8.35 "Пячора" Залатой ружы", с. 3 9.30, 19.35 "Санта-Барбара" 10.20 Гандлёвы дом 10.35 Тэлегазета 10.40 Сялянскае пытанне 11.05, 13.20 Дзелавая Расія 13.45 "Тайна цёмных джунгляў", с. 5 15.05 Рэпартажы з месцаў 15.20 Студыя "Рост" 15.50 Там-там навіны 16.05 Свята кожны дзень 16.15 К.-М. Вебер. "Бачанне Розы" 16.25 Улада свабоды 16.55 Дысней па пятніцах 17.55 Рэк-тайм 19.25 Падрабязнасці 20.30 "Гарадок" 21.05 "К-2": "Ведай гашых" 22.20 Рака часу 22.25 Аўтаімгненне 22.30 Спартыўная карусель 22.35 Праграма "А" 23.35 Зоркі гавораць 23.40 "Дэжа Вю", м/ф

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ**

12.00, 14.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ 12.10 Чароўная лінія 12.25 "Нямецкая хваля" 12.55, 14.40, 19.05 Музычны момант 13.00 "Княгіня Наталля Пятроўна", т/ф 13.25 "Оперны баль" 14.45 "Брунет у вячэрнюю пару", м/ф 16.20 Казка за казкай 16.50 "Граматыка кахання", м/ф 17.55 Храм 18.50 Спорт, спорт, спорт... 19.10 Вялікі фестываль 19.25 "Сікілоку", м/ф 20.45 На канцэрце Я. Шыфрына 21.10 Тэлемагазін 21.15 Тэлеслужба бяспекі 21.45 Спартыўныя навіны 22.00 Ваш стыль 22.05 "Ягоны развод", м/ф (ЗША)

**ПОЛЬШЧА - 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв.ЗША. 09 30 Краіна Амерыка. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дошкольнікі дома. 10 50 Святочныя спевы. 11 00 "Вяртанне Макклейна". Серыял вытв.ЗША. 11 50 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Праграма нацыянальных меншасцяў. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 45 Якая школа? 13 50 Што ні краіна - дык іншы звычай. 14 05 Гібнучыя прафесіі. 14 15 Погляд на Германію. 14 30 Бізнес па-Амерыканску. 15 00 Публіцыстычная праграма. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычны тэлетурнір. 16 30 "Дзядзя Джэк"'. Серыял вытв.Англіі. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв.ЗША. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлежурнал. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлежурнал спажыўца. 19 05 Спатканне ўцёмную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Адзін бог ведае". Фільм вытв. ЗША. 23 20 Пульс дня. 23 15 Чвэрць гадзіны. 23 30 Спартыўная студыя. 00 00 Навіны. 00 20 Героі, скандалісты і іншыя. 00 45 Рэпартаж. 01 00 "Вуліцы ў агні". Фільм вытв. ЗША. 02 30 Музычная праграма.

**ПОЛЬШЧА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Ранішні госць. 08 30 Курс англійскай мовы. 08 40 Раніца другой праграмы. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Трансляцыя пасяджэнняў Сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "Ад дзевяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 18 00 Дакументальны фільм. 18 15 З селяніна - старшыня. 18 40 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Тэлетурнір. 21 00 Публіцыстычная праграма. 21 50 Уік-энд. 22 00 Панарама. 22 30 Забаўляльная праграма. 23 05 "Зло таіцца паўсюдна". Фільм вытв. Англіі. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Забаўляльная праграма.

*СУБОТА, 31.12*

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

8.00 Навіны 8.10 Мультфільмы 8.30 "Усе зоркі" 9.20 Здароўе 9.50 "Казкі навагодней елкі" 10.25 "Тэлебом", ч. 1 11.25 "Лулу — анёл кветак" 12.00 "Казка пра Зорнага хлопчыка", м/ф 14.10 "Дзівакі з Баркаўцоў", спектакль 14.45 Тэлекрама 14.55 "Усё нармальна, мама". Прэм'ера цыкла 15.25 Міжнародныя спартыўныя навіны 15.55 "Эскадрон гусар лятучых", м/ф 18.45 Банка коміксаў 19.15 Мультфільмы 19.40 Шоу "Палігон" 20.20 "Дзень стагоддзя". Прэм'ера цыкла 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Пад купалам Сусвету 21.50 "Вясёлы ўік-энд". Прэм'ера цыкла 22.00 "Шоу-прагноз". Прэм'ера цыкла 22.10 "Клас-клуб". Наш госць — Буба Касторскі. Прэм'ера цыкла 22.40 "Кахаю...", м/ф 23.30 "Беларусь сустракае Новы год" 23.45 Навагодняе віншаванне беларускаму народу. Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі 24.00 Фаварыты года 1.50 "Гусарская балада", м/ф 3.25 "Міс Катастрофа", м/ф (Італія—Францыя) 5.00 "Зачараванне раманса"

**КАНАЛ "АСТАНКІНА"**

7.15, 12.05, 14.00, 15.10, 16.50, 22.10 Ідзе Новы год 7.20 Мультфільм 7.30 Слова пастара 7.45 Покліч джунгляў 8.15 Авіякасмічны салон 8.30 Кампанія "Мір" 10.00 Ранішняя пошта 10.30 Без паўзы 10.40 Смак 10.55 П. І. Чайкоўскі. "Шчаўкунчык" 12.10 "Зігзаг удачы", м/ф 13.50 Навіны 14.10 "Тэлескоп" 15.15 У свеце жывёл 15.55, 20.35 Надвор'е 16.00 Шчаслівы выпадак 17.00 Ралі Парыж-Гранада-Дакар 17.05 "Казіно "Раяль", м/ф (ЗША) 19.40 Добрай ночы, малышы! 20.00 Навіны плюс 20.45 Што? Дзе? Калі? 22.15, 23.05 Навагодняя сустрэча ў Маскве 22.50 З Новым годам! 2.35 "Бравісіма"

**КАНАЛ "РАСІЯ"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.25 "Сабачае шчасце", м/ф 8.35 Тэлеэрудыт 8.40 Парламенцкі тыдзень 9.25 "Пячора "Залатой ружы", с. 4 10.20 "Як жыць будзем?" 11.00, 11.45, 16.30, 17.05, 18.50, 19.25, 21.40, 21.50, 0.55, 1.55 Шчасця, удачы, надзеі жадаюць вам А. Пахмутава, М. Дабранраваў, Б. Ахмадуліна, Э. П'еха, А. Табакоў, Л. Зыкіна, А. Вазнясенкі, І. Кабзон, А. Баталаў, М. Озераў, Г. Жжонаў 11.05 Футбол без межаў 11.50 "Эдэра" 12.45 Дэ факта 13.20 "Стары Новы год", м/ф 15.40 "Дванаццаць месяцаў", мульт 16.35 Там-там навіны 16.50 Свята кожны дзень 17.00 Тэлеэрудыт 17.10 "Вустрыцы з Лазаны", м/ф 18.30 Каробка перадач 19.30 "Елка для дарослых". Р. Быкаў 22.25 Навагодні сюрпрыз 22.30 Рэпарцёр 22.50 Віншаванне з Новым годам 23.05 Навагодняя ноч N 1995 0.50 Зоркі гавораць 1.00 Магі і чараўнікі. Д. Коперфільд 2.00 Ціхі дом 3.00 Танцавальны марафон

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ**

8.55, 11.20, 12.35, 15.10, 16.05, 21.55 Мультпанарама 9.30 Чароўная лінія 9.45 Развітанне з Годам Сабакі 10.40 "Адэскія песні". А. Разенбаўм 11.25 "Апошняе снеданне адыходзячага года" 11.55 Паверце, Дзед Мароз сапраўдны 12.40, 14.05 "Вясёлае снабачанне, ці Смех і слёзы", м/ф 13.45 Антрэ. Цырк навагодні 15.35 "Спявай, бадзяга". А. Кваша 16.15 "Італьянскі кантракт", м/ф 17.40 Экспрэс-кіно-95 17.55, 20.30 Уік-энд з дэтэктывам 18.30 Інфарм ТБ 18.55 "Ды будуць усе адзіныя". Навагоднія віншаванні рэлігійных канфесій. 19.10 Вялікі фестываль 19.30 Шоу за тры гадзіны да... 20.40 "Не хочаш — не сустракай" 21.50 Ваш стыль 22.00, 23.05 Елка-95. Тэлемост Санкт-Пецярбург—Масква 22.45 З Новым годам!

**ПОЛЬШЧА - 1**

07 55 Праграма дня. 08 00 Польскія танцы. 08 30 Нядзеля. 09 00 Мультфільм. 09 30 Навагодні дарадца. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Навагодняя праграма. 11 25 "Дзядзя Джэк"'. Серыял вытв.Англіі. 12 00 Жывёлы свету. 12 30 Фінал танцавальнага турніра. 13 00 Навіны. 13 10 Тэлежурнал. 14 10 Пані Ірэна. 15 00 Мультфільмы У. Дыснея. 16 20 Фінал танцавальнага турніра. 16 50 Тэлежурнал. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір. 18 50 "Беверлі Хілз". Серыял вытв.ЗША. 20 00 Дзіцячы журнал. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 00 Навагодні зварот прэзідэнта Польшчы. 21 20 "Бацькі і дзеці". Камедыя вытв. ЗША. 23 35 Танга зорак. 00 35 Сатырычная праграма. 00 55 Святочны тост. 01 15 Маскарад. 02 15 "Неспадзяваная атака". Трылер вытв. ЗША. 03 55 Музычная праграма. 04 25 "Запрашэнне да танца". Музычны фільм вытв. ЗША.

**ПОЛЬШЧА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Музычная раніца. 08 30 Такія адзінокія. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Тэлежурнал. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Ваенны журнал. 11 30 Трансляцыя з балю. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 "Два залатых кольты". Вестэрн вытв. ЗША. 15 00 Спартыўная студыя. 16 00 Студыя другой праграмы. 16 20 "Хартовы на дзікім Захадзе". Серыял вытв. ЗША. 17 20 Зрабі гэта. 18 10 Кола фартуны. 18 45 Студыя другой праграмы. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Новы год ў Польшчы. 20 00 Навагодні концэрт. 21 00 Новы год ў Польшчы. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Новы год ў Польшчы. 23 55 Мастацкі фільм. 01 00 Навагоднія пажаданні. 02 20 Мастацкі фільм. 02 15 Новы год ў Польшчы. 02 45 Канцэрт.

*НЯДЗЕЛЯ, 1.01*

**БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**

9.00, 10.10 "Навагоднія сюрпрызы" для дзяцей і дарослых 9.40 "Уся справа ў капелюшы" 10.15 "Папялушка", м/ф 11.35 Дабрачынная Навагодняя ёлка для дзяцей Беларусі 12.35 Паміж намі, жанчынамі, ч. 1 13.15 "Размінка". Прэм'ера цыкла 13.20 "Ты ляці, мая прыпеўка". Сустрэча з удзельнікамі конкурсу газеты "Звязда" 14.20 "Мульткацэрт" 15.00 Тэлевізійны Дом кіно 16.20 Тэлекрама 16.30 "31 чэрвеня", м/ф 18.40 "Запрашаем на вячоркі" 19.20 Праспект 19.50 "32 снежня", мульт 20.05 "Пап-Ці"-TV 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.50 "Бон-тон". Прэм'ера цыкла

**КАНАЛ "АСТАНКІНА"**

7.15 Спортлато 7.30 На балі ў Папялушкі 8.30 Раным-рана 9.00 Брэйн-рынг 9.35 Пакуль усе дома 10.05 Ранішняя зорка 10.55 Навагодняя сустрэча ў доме Растовых 11.45 "Маё апошняе танга". П. Лешчанка 12.35 Шпаргалка з падарункам 12.50 "Вечныя праціўнікі: ільвы і гіены" 13.50, 16.30, 22.50, 23.50 Навіны 14.00 "Маё імя - клоун", м/ф (Індыя), с. 1 15.10 Эх, шлях-дарожка франтавая... 15.20 Клуб падарожнікаў 16.10 Тэлелоцыя 16.40, 19.20 "Песня-94" 18.25 Надвор'е 18.30 "Гісторыя адной сустрэчы". Г. Хазанаў і Л. Ізмайлаў 21.00 Нядзеля 21.50 Ралі Парыж—Гранада-Дакар 22.10 Парад фестываляў 23.00 Ізабэль Юпэр у мастацкім фільме "Сапраўдная гісторыя Дамы з камеліямі", м/ф (Італія)

**КАНАЛ "РАСІЯ"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі 7.25, 11.30 Мульці-пульці 8.50 "Рост"-95 9.20 "Пячора "Залатой ружы", с. 5 10.15 Добрай раніцы 10.45 Рускае лата 11.45 "Курыца", м/ф 13.20 "Эдэра" 14.15 "Фантазёр", балет 15.40 "Ільвы Эташы", д/ф, прэм'ера 16.45 Чароўны свет Дыснея 17.40 "Дон Кіхот і Дон Жуан", спектакль 19.25 Свята кожны дзень 19.35 "Агенты КДБ таксама ўлюбляюцца", х/ф 21.15 "Маскі" ў гасцях у "Джэнтльменаў" 22.30 Рака часу 22.40 Аўтаімгненне 22.45 "Рускі транзіт", тэлесерыял 23.45 "Залатыя старонкі "Грэмі" 1.15 Зоркі гавораць 1.20 "Дафніс і Хлоя", м/ф

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ**

8.55 Мультфільмы 9.15 Студыя "Уяві" 9.30 Чароўная лінія 9.45, 22.15 Паглядзім 10.00 Рандэву. Э.П'еха 10.35 "Дарагая Памела", спектакль 13.05 Цыркавое прадстаўленне 13.50 У гасцях у І. Алегравай 14.35 "Карнавальная ноч", м/ф 15.45 "Навагодняя гісторыя", мульт 16.00 Навагоддзе ў "Паласатай музыкі" 16.20 Зебра 17.05 Арт-буфет 18.25 "Кубак міра". Футбол-шоу 19.30 Інфарм ТБ 19.55 Парад у навагоднім эфіры 20.30 "Мадо, да запатрабавання", м/ф 22.10 Ваш стыль 22.30 Дом кіно 1.30 "Адам і Ева +

**ПОЛЬШЧА - 1**

08 00 Краіна Амерыка. 08 25 Што новага? 08 40 Песні з падтэкстам. 09 15 Праграма дня. 09 25 Мастацкі фільм. 11 40 Тэлеканцэрт пажаданняў. 12 25 Антэна. 12 40 Паўтор навагодняга звароту прэзідэнта. 13 05 'Міс". Камедыя вытв. Польшчы. 14 55 Вочы ў вочы. 15 25 Мінула трыццаць год. 16 15 Чар пар. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Варта пасмяяцца. 19 19 "Доктар Квін". 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Вяртанне да будучага". Камедыя вытв. ЗША. 23 10 Вечар з Аліцыяй. 00 10 Спартыўная студыя. 01 05 "Кракадзіл Дэндзі". Камедыя вытв. Аўстраліі. 02 45 Канцэрт.

**ПОЛЬШЧА 2**

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 20 Слова на нядзелю. 09 30 Тэлежурнал. 09 35 Стагоддзе каталіцкай місіі ў Англіі. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Фальклор. 12 00 Тэлетэатр для дзяцей. 13 00 Студыя другой праграмы. 13 15 Канцэрт з Вены. 14 35 Адзін з дзесяці. 15 05 Мастацкі фільм. 16 30 Віншаванні для Польшчы. 17 40 Студыя другой праграмы. 17 50 Канцэрт. 18 50 Студыя другой праграмы. 19 00 Канцэрт. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлежурнал. 20 35 Мультсерыял. 21 00 Паглядзім яшчэ раз. Спорт-94. 22 00 Панарама. 22 30 Тэатралізаванае прадстаўленне. 23 10 "Чемпіён". Фільм вытв. ЗША. 01 10 Забаўляльная музыка.

## АБ'ЯВЫ



**УВАГА!**

*Толькі адзін раз! Навагодняя ноч, праведзеная Вамі ў клубе "Адам", - гэта незабыўныя ўражаньні на ўвесь год, якія застануцца ў памяці пасьля адпачынку ў атачэньні знакамітых артыстаў рэспублікі. Сьпяшайце!*

*Замовы на рэзерваваньне месцаў прымаюцца па тэлефоне 44-81-62 з 10.00 да 18.00.*

**ДЫСКА-КЛУБ "АДАМ"**

**МЯНЯЮ**

*2-пакаёвую кватэру 34,5 кв.м з тэлефонам, р-н Фарты, на 1-пакаёвую і любы пакой. Тэл. 31-98-70.*

**ЗДАЮ**

*гараж у р-не мясакамбіната за невялікую плату. Тэл. 39-98-97.*

**ПРАДАЮ**

* *тэрміновa пральную машыну "Вятка-аўтамат". Тэл. у Шчучыне 2-26-03.*
* *стол-кнігу новую ці мяняю на тумбу пад тэлевізар. Вул.Томіна, д.6-б, пак. 13.*



**АФАРМЛЕНЬНЕ І РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ РЭКЛАМЫ ПА ТЭЛ.: 45-29-96**

## *КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

**ЗАБОЙСТВЫ**

Чарговае гучнае забойства ўчынена ў мінулую пятніцу ў Горадні. Раніцай па вул.Урублеўскага, 70 былі знойдзены з вогнестрэльнымі раненьнямі трупы мужа і жонкі. У 28-гадовага гаспадара былі прастрэлены грудзі, а яго больш маладзейшай жонцы куля трапіла ў галаву, прабіла яе наскрозь.

У гэтай жа кватэры знаходзіліся і бацькі забітага мужчыны, якія, аднак, зачыніліся ў сваім пакоі і пачалі крычаць, што, магчыма, выратавала непажаданых сьведак ад расправы. Гэтак жа пашанцавала і сямігадовай дачцэ забітых, якую пасьпелі адвесьці ў садок.

Ва ўчыненым забойстве падазраецца злачынная групоўка, двое чалавек з якой праз суткі былі затрыманы.

Напэўна, яны былі знаёмыя са сваімі ахвярамі і мелі агульнакамерцыйныя справы.

**КРАДЗЯЖЫ ТЫДНЯ**

Мінулы тыдзень без перабольшваньня можна назваць "металічным". Толькі за тры дні ўчынена шэсьць "медзяных" крадзяжоў. Але, як сьведчаць паведамленьні, злодзеі пашыраюць пошук крыніц, якія ўтрымліваюць каляровыя і каштоўныя металы.

З заявай у міліцыю зьвярнулася адна з камунальных службаў Горадні, агрэгаты якой, на жаль, таксама ўтрымліваюць спакусьлівыя металы. У выніку гарадзкой гаспадарцы нанесены значныя страты. А памеры ўрону на ВА "Хімвалакно" наогул не маюць аналагаў у абласной крымінальнай практыцы. Там з абсталяваньня спыненай тэхналагічнай лініі злодзеі скралі каляровых і каштоўных металаў коштам звыш 158 млн. рублёў.

**АПОШНЯЯ ГАСТРОЛЬ**

З дапамогай газавага пісталета і ўласных "жыгулёў" злачынная групоўкаа пачала рабаваць ціхіх і рахманых гарадзенцаў, уладальнікаў "зялёнага" тавару, рублёў і нават "зайцоў". Лік ахвяр рос хутка: адзін, два, тры, чатыры...

Далей, аднак, казанцам не далі разгулявацца гарадзенскія міліцыянты, у выніку чаго ўся чацьвёрка надоўга зьменіць паволжскую прапіску на мясцовую.

**НА ЛЕЦІШЧАХ**

Некаторыя гаспадары, якія пасьля мінулых выхадных наведалі лецішчы, убачылі на родных "сотках" сьляды няпрошаных гасьцей. Асабліва не шанцуе ў год Сабакі аднаму з кіраўнікоў вайсковага гандлю з Горадні, маёмасьць якога ўжо тройчы падвяргалася крадзяжам. Нейкая іронія лёсу...

**ПА СЬЛЯДАХ "КХ"**

У выпуску "КХ" за 2 сьнежня паведамлялася, што адным з удзельнікаў абрабаваньня на плошчы Дзекабрыстаў быў вучань СШ N 21. На жаль, адбылася тэхнічная памылка, бо на самой справе ў гэтым злачынстве "засьвяціўся" васьмікласьнік СШ N 24.

**Георг СЫСОЙ**

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## «МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ»

Наваградзкай Радай БНФ "Адраджэньне" ў гарадзкім Доме культуры была праведзена ўрачыстая вечарына, прысьвечаная слуцкім абаронцам. Беларускім нацыянальным гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" пачалася аднайменная літаратурная кампазіцыя, падрыхтаваная навучэнцамі прафесійна-тэхнічнага вучылішча.

У вершах і ў прозе гаварылася пра гісторыю Слуцкага Збройнага Чыну, пра самаахвярнасьць слуцкіх патрыётаў у барацьбе за вызваленьне краю ад бальшавізму.

У кампазіцыі былі выкарыстаны ўрыўкі з апавяданьня Васіля Быкава "На чорных лядах", прысьвечанага апошнім і да болю трагічным дням слуцкіх абаронцаў.

Жалобнай хвілінай маўчаньня былі ўшанаваны ўдзельнікі Слуцкага Збройнага Чыну, а таксама ўсе сыны і дачкі Беларусі, загінуўшыя ад рук бальшавіцкіх катаў.

У хвіліну маўчаньня думкі прысутных зьвярталіся да Бога.

- Вечнае спачываньне дай ім, Божа, а сьвятло Вечнасьці няхай ім сьвеціць!

Літаратурная кампазіцыя пераклікалася і з сёньняшнім днём Беларусі. Вершы Рыгора Барадуліна, Станіслава Судніка заклікалі мацней гуртаваць шэрагі беларускага нацыянальнага Адраджэньня, зьяднацца вольным духам беларускім на сьвяты покліч: "Жыве Беларусь!".

Завяршылася вечарына выкананьнем гімна "Магутны Божа".

**Г.ПАЎЛУЙ,**
**г.Наваградак.**



## УРАЧЫСТАЯ ІМША Ў БАЗЫЛІЦЫ МЕНШАЙ

У Базыліцы Меншай - Фарным касьцёле Горадні - адслужана ўрачыстая імша, прысьвечаная першаму кардыналу Рымска-каталіцкай царквы на Беларусі К.Сьвёнтэку.

**НА ЗДЫМКУ: К.Сьвёнтэк падчас служэньня ўрачыстай імшы.**

**Фатаграфаваў М.АНІШЧАНКА.**

## «ДОБРАЕ СЭРЦА» – ДЗЕЦЯМ

З 1 па 31 сьнежня ў Гарадзенскай вобласьці праводзіцца дабрачынная акцыя "Добрае сэрца". Яе арганізатар - абласное аддзяленьне Беларускага дзіцячага фонду. У рамках акцыі наладжана наведваньне хворых дзяцей у шпіталях, пройдуць таксама мерапрыемствы для дзяцей-сірот, інвалідаў, з шматдзетных сем'яў, анкалагічна хворых, зьвязаныя са сьвяткаваньнем Каляд і Новага года. Усе дзеці (больш за 600 чалавек) атрымаюць навагоднія падарункі, а 80 сірот - яшчэ і прадметы адзеньня.

Тыя, хто жадаюць дапамагчы пакрыўджаным лёсам дзецям, могуць зьвярнуцца ў абласное аддзяленьне Беларускага дзіцячага фонду па тэлефону 47-14-01.

**А.ДУК.**

## ПЕРШЫЯ ГУЛЬНІ

У суботу на стадыёне "Нёман" у Горадні адбыліся першыя гульні гарадзкога турніра па міні-футболу. У першым туры наша "Пагоня" гуляла супраць каманды "Універсітэт-2". Старт быў удалы. Вынік першай паловы - 1:1. Агульны лік сустрэчы - 4:1 на карысьць "Пагоні". Па два мячы забілі Сяргей Сергяюк і Вадзім Мачалаў.

**М.БЕЛАКОЗ.**




## «НАДЗЕЯ-94»

Міжнародны конкурс юных кампазітараў пад такой назвай, прысьвечаны Максіму Багдановічу, адбыўся ў Горадні. Ён праводзіўся па ініцыятыве Гарадзенскага аддзяленьня Беларускага фонда культуры і аддзела культуры аблвыканкама. Галоўная ўмова конкурса - адзін з твораў конкурснай праграмы павінен быць напісаны юным кампазітарам на верш М.Багдановіча альбо прысьвечаны яму. У ім прынялі ўдзел вучні музычных школ, вучылішчаў з шэрагу гарадоў Беларусі, а таксама з Масквы, Яраслаўля, Цярнопаля, Луцка.

"Гран-пры" у розных узроставых групах і прэміі ў памеры 500 тысяч рублёў атрымалі Дзінара Мазітава і Валерыя Янкоўская (мастацкі кіраўнік В.Радыёнаў), а таксама Сяргей Галубкоў з Масквы (кіраўнік Я.Чудава). Спецыяльнымі заахвочвальнымі персанальнымі прызамі, а таксама за арыгінальныя музычныя творы, напісаныя на вершы М.Багдановіча, былі ўзнагароджаны іншыя ўдзельнікі конкурса.

"Надзея-94" выклікала вялікі інтарэс у аматараў музыкі, сьведчаньне таму - зала Новага Замка, у якой праходзіў заключны канцэрт, не магла ўмясьціць усіх жадаючых. Нездарма прафесар Маскоўскай кансерваторыі Я.Чудава, якая ўзначальвала журы конкурса, адзначыла высокі ўзровень яго падрыхтоўкі і правядзеньня. А намесьнік старшыні Гарадзенскага аддзяленьня фонда Н.Трухановіч выказала спадзяваньне, што ўжо ў наступным годзе "Надзея" стане конкурсам горада.

**А.ДУК.**



**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

## КАЛЯДА ✱ КАЛЯДА

Гістарычнымі карэньнямі Каляды паходзяць ад старажытных часоў, калі рознымі народамі праводзілася сьвяткаваньне зімовага сонцастаяньня. Калі на нашы землі прыйшло хрысьціянства, пачатак калядаў сталі зьвязваць з Ражаством Хрыстовым.

Каталікі сьвяткуюць Ражаство 25 сьнежня, праваслаўныя - 7 студзеня.

Каляды - сьвята сямейнае, яго сустракаюць у асяродку найблізкіх людзей. Але самы цудоўны з калядных звычаяў - запрашэньне на вячэру адзінокіх людзей. У гэты вечар ніхто не павінен адчуваць сябе пакінутым і забытым.

Напярэдадні Ражаства сям'я зьбіралася на перадкалядную вячэру - яна называлася ў народзе "куцёю", як і абавязковая калядная страва - каша з ячных ці іншых крупаў.

За стол садзяцца з надыходам цемры, калі на небе зьяўляецца першая зорка, якую дзеці выглядаюць з нецярплівасьцю.

Большасьць старажытных звычаяў захавалася ў вёсцы. У хаце ва ўсе чатыры куты ці толькі ў пачэсны ставяць неабмалочаныя снапы збожжа. У некаторых месцах захаваўся звычай даваць куцю свойскім жывёлам, каб былі здаровыя і давалі добры прыплод.

Даволі распаўсюджаны звычай класьці сена пад абрус, якім засьцелены стол. Варажылі за сталом, выцягваючы з-пад абруса сьцяблінкі пакладзенага сена. Дзяўчаты жадалі даведацца, што іх чакае, і калі выцягне зялёную сьцяблінку - значыць, яе чакае каханы і хутка вясельле, калі пачарнелую сьцяблінку - сардэчныя неўладкаваньні, канец шлюбных намераў, застанецца ў дзеўках сядзець. Доўгая сяніна нібыта паказвала на высокі лён улетку. Густыя зоркі ў гэтую ноч сьведчылі пра вялікі ўраджай хлеба, грыбоў, прыплод хатняй жывёлы.

І хаця да вялікага сьвята старанна рыхтаваліся яшчэ з пачаткам посту, калолі сьвіней, рэзалі авечак, стол быў посны.

У каталікоў самы хвалюючы момант надыходзіў тады, калі дзяліліся аплаткай. У гэтую ўрачыстую хвіліну адзін аднаму даруюць усе крыўды і грахі і замацоўваюць мір і згоду пацалункам.

Галоўным пунктам кулінарнай праграмы Калядаў была куця - традыцыйная абрадавая каша, якая распаўсюджана ў беларусаў і іншых славянскіх народаў.

Звараную куцю перад заходам сонца ставілі на покуці, за сталом елі апошняй, рэшткі давалі жывёле, пакідалі продкам.

У нашай хаце куцю гатавалі з пшаніцы, а як яе не было - з іншых крупаў. Але абавязкова кашу залівалі салодкім макавым малаком.

Вось рэцэпт куці, якую можна прыгатаваць, калі ёсьць прадукты:

Перабраць 200 г добрай пшаніцы без лушпаек, прамыць і гатаваць, пакуль не стане мяккай (каля 4-х гадзін), адцадзіць і астудзіць. Адважыць 200 г маку, заліць кіпенем, паставіць на агонь да часу, пакуль зьмякне, што можна будзе расьціраць пальцамі. Тады адцадзіць цераз густое сіта, выціснуць, прапусьціць 3 разы праз мясарубку, пакуль не зьбялее. Мак пакласьці да пшаніцы, дадаць 50 г грэцкіх арэхаў, 50 г прамытых разынак, цукру, мёду, ванілі да смаку, перамяшаць усё, уліць 1/4 шклянкі вяршкоў. Добра ахаладзіць. Смачна есьці!

Сьвяточная вячэра пачыналася чырвоным ці грыбным баршчом, былі рыбныя стравы, гарох з капустай, лазанкі, куця, пірагі.

Моцныя трункі дазваляліся, але пілі іх мала.

Сярод салодкіх вырабаў першае месца займаюць пернікі і "макавец" - рулет з макам.

З Ражаства Хрыстова пачыналі хадзіць калядоўшчыкі. Яны пераапраналіся ў цыганоў, "казу", "мядзьведзя", "жорава", "кабылу" і хадзілі па хатах, сьпявалі калядныя песьні з віншаваньнямі і пажаданьнямі. Абавязкова насілі зьвязду-"сонца" - сімвал сьвята. Шчырыя гаспадары абдорвалі іх салам, каўбасамі, частавалі дзеля сугрэву чым-небудзь моцным.

Калядоўшчыкі сьпявалі песьні, скакалі пад скрыпачку і бубен, бо гулянка без музыкі, як воз без шмаравідла, як танец без дзеўкі.

Калядныя і навагоднія сьвяты не абыходзяцца без зялёнай елкі-прыгажуні, аб чым упершыню ўпамінаецца ў старым дакуменьце за 1521 год з горада Селесты з сярэдневечнага Эльзаса. Праз Эўропу пасьля Пятра I калядная елка прыйшла ў Расею, а ў 19-м стагоддзі - за акіян.

Спачатку елку ўпрыгожвалі яблыкамі і аплаткамі, пасьля зьявіліся папяровыя кветкі, ласункі. З 19 ст. на галінках пачалі разьвешваць пазалочаных анёльчыкаў, арэхі, серабрыстыя гірлянды. Шкляныя цацкі зьявіліся выпадкова - шклодувы Латарынгіі ўмела падмянілі натуральныя плады. Зараз мы ўжо не ўяўляем сьвята без бліскучых цацак.

Мы павінны зьберагчы і адрадзіць традыцыі калядных сьвятаў, шанаваць памяць далёкіх продкаў, што жылі на нашай зямлі. Гэта цудоўная магчымасьць далучыцца да скарбаў роднай мовы, якая жыве і будзе жыць, пакуль жыве беларускі народ.

З Ражаством Хрыстовым, з Калядамі, дарагія сябры! Каб Вы доўгія гады жылі, каб здаровыя былі і на нас не забываліся!

**Людвік САРОКА.**

## СЬНЕЖАНЬ

Сьнежань - адзін з самых пахмурных месяцаў года, неба амаль штодзённа зацягнута нізкімі аблокамі. Ды і ў пагодлівыя дні сонца не пасьпее ўзьняцца над гарызонтам, а ўжо хіліцца да захаду.

Але сьнежань усё ж нельга назваць змрочным, нявётлівым. Каля 22-га сонца стаіць некалькі дзён апоўдні на адной вышыні, адсюль і назва - зімовае сонцастаяньне. У гэты дзень, на Ганну, дзень самы кароткі, а ноч самая доўгая.

Сьнежань - месяц чаканьня Ражаства, навагодняга сьвята, прыгажуні-елкі, калядных забаваў і песьняў. Пачынаецца зіма.

Кожнаму з нас, ці то жыхару горада, ці то вёскі, цікава і карысна ведаць, якое будзе заўтра надвор'е, што чакае нас вясною, улетку?

На гэтыя пытаньні адказваюць народныя прыкметы, якія зьбіраліся стагоддзямі нашымі продкамі.

Калі засьпяваў сьнегір - чакаецца завея, калі з раніцы чуецца ціўканьне сініцы - мароз памацнее.

Лётаюць і нярвова крычаць галкі і вароны - заўтра будзе сьнегапад або завіруха.

Вераб'і дружна чырыкаюць - да адлігі.

Перад моцнымі маразамі куры рана сядаюць на седала, забіраюцца вышэй.

Вароны і галкі зімой сядаюць на вяршыні дрэў - на мароз.

Сьнег перастаў скрыпець пад нагамі і прыкметна асеў, вецер падзьмуў з захаду ці з паўднёвага захаду - надыдзе працяглае пацяпленьне.

Вароны і галкі садзяцца на сьнег - да адлігі.

Халодная зіма - гарачае лета.

Зімой завеі - летам непагадзь.

Сухі сьнежань - сухія вясна і лета.

Зімою будуць частыя адлігі - жыта ўродзіцца дрэннае.

Калі варона ў добрае надвор'е крычыць на ляту, то зімою пойдзе сьнег, а ўлетку - дождж.

**Л.С.**



**ПАПРАЎКА**

**Газета "Пагоня" не атрымлівала інфармацыі, перададзенай па зводцы СІМ, ад падпалкоўніка С.Э.Сьвіркевіча.**

**Тых, хто спасылаецца на "Пагоню", просім уважліва чытаць нашу газету. Таксама перапрашаем спадара падпалкоўніка.**



**"ПАГОНЯ"**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА**

Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".

Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.

Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.

Пры передруку спасылка абавязкова.

Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест разьмешчанай у газеце рэкламы.

Індэкс 63124. Ліцэньзія № 465.

Фотанабор, афсетны друк.

Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.

Заказ 4952.

Наклад 7259 паасобнікаў.